# Шляхі калектывізацыі



XVIII
7923

N 5-6
САКАВІК 1933
ОРГАН НКЗБ

## АРГАНІЗАВАНА ВЫСТУПІЦЬ У ПОЛЕ!

# ВЯЛІКІ НАСТАЎНІК ПРАЛЕТАРЫЯТУ

## (да 50-цігодзьдзя з дню сьмерці КАРЛА МАРКСА)

14 сакавіка г. г. споўнілася роўна 50 год з дню сьмерці вялікага змагара за вызваленьне працоўных усяго сьвету і асновапаложніка навуковага камунізму—**Карла Маркса**.

Маркс нарадзіўся 5 мая новага стылю 1818 г. у горадзе Трыры (Прырэйнская Прусія). Бацька яго быў адвакат, яўрэй, які прыняў у 1824 г. протэстанства. Сям'я была заможная, культурная, але не рэвалюцыйная. Скончыўшы гімназію ў Трыры Маркс паступіў ва унівэрсытэт, спачатку ў Бонне, потым ў Бэрліне вывучыў юрыдычныя навукі, але болей за ўсё гісторыю і філёзофію.



Увосень 1843 г. Маркс прыехаў у Парыж. У верасьні 1844 г. у Парыж прыехаў на некалькі дзён Фрыдрых Энгельс, які стаў з тых пор бліжэйшым другам Маркса. Яны ўдвух прынялі самы гарачы ўдзел у тагочасным кіпучым жыцьці рэвалюцыйных груп Парыжу, рэзка змагаючыся з рознымі вучэньням дробна - буржуазнага сацыялізму, выпрацавалі тэорыю і тактыку рэвалюцыйнага пролетарскага сацыялізму альбо камунізму (марксызму).

У 1845 г. Маркс па патрабаваньні Прускага ўраду, як небясьпечны рэвалюцыянэр, быў высланы з Парыжу. Ён пераехаў у Брусэль. Вясною 1847 г. Маркс і Энгельс далучыліся да тайнай прапагандысцкай грамады „Саюзу камуністаў", прынялі актыўны ўдзел на II зьезьдзе гэтага саюзу і, па яго даручэньню, напісалі славуты „Маніфэст Камуністычнай партыі", які вышаў з друку ў 1848 г. У гэтым творы з геніяльнай яснасьцю і яркасьцю абрысованы новы сьветапогляд, пасьлядоўны матэрыялізм, які ахоплівае і вобласьць сацыяльнага жыцьця, дыялектыка, як найбольш усебаковае і глыбокае вучэньне аб разьвіцьці, тэорыя клясавай барацьбы і сусьветна-гістарычнай рэвалюцыйнай ролі пралетарыяту, тварца новага камуністычнага грамадзтва.

Калі пачалася лютаўская рэвалюцыя 1848 г., Маркс быў высланы з Бэльгіі. Ён прыехаў ізноў у Парыж, адтуль пасьля сакавікоўскай рэвалюцыі ў Германію — у Кёльн. Там выходзіла з 1-га чэрвеня 1848 г. па 19 мая 1849 г. „Новая Рэйнская газэта", галоўным рэдактарам быў Маркс. Новыя тэорыя была бліскуча пацьверджана ходам рэвалюцыйных падзей 1848—49 г. г., як пацьвердзілі яе потым усе пралетарскія і дэмакратычныя рухі ўсіх краін сьвету. Перамогшая контррэвалюцыя аддала Маркса пад суд, а потым выслала з Германіі. Маркс падаўся спачатку ў Парыж, быў выслан і адтуль пасьля дэманстрацыі 13-га чэрвеня 1849 г. і паехаў у Лёндан, дзе і жыў да самай сьмерці.

Умовы эміграцкага жыцьця, асабліва навочна ўскрытыя перапіскай Маркса з Энгельсам, былі вельмі цяжкімі. Нэндза проста душыла Маркса і яго сям'ю, ня будзь пастаянай самаахвярнай фінансавай падтрымкі Энгельса, Маркс, ня толькі ня мог-бы скончыць „Капіталу", але і нямінуча загінуў-бы пад гнётам жабрацтва. Акрамя таго, вучэньні і плыні дробна-буржуазнага, наогул непралетарскага сацыялізму, прымушалі Маркса заўсёды да бязьлітаснай барацьбы, часамі да адбіцьця самых шалёных і дзікіх асабістых нападак. Старонячыся ад эміграцкіх гурткоў, Маркс у шэрагу гістарычных прац распрацоўваў сваю матэрыялістычную тэорыю, прысьвячаючы, галоўным чынам сілы вывучэньню палітычнай эканоміі.

Эпоха ажыўленьня дэмакратычных рухаў канца 50-х і 60-х г. г. зноў заклікала Маркса да практычнай дзейнасьці. У 1864 г. быў заснаваны ў Лёндане славуты 1-ы Інтэрнацыянал, „Міжнароднае Таварыства Рабочых". Маркс быў душой гэтага таварыства, аўтарам яго першага „звароту" і масы рэзалюцый, заяў, маніфэстаў. Злучаючы рабочы рух розных краін, стараючыся накіраваць ў рэчышча сумеснай дзейнасьці розныя формы, непралетарскага дамарксыцкага сацыялізму (Мадзіні, Прудон, Бакунін, ангельскі лібэральны трэд-юніонізм, лассаліянскія хістаньні ўправа ў Германіі і інш.), змагаючыся з тэорыямі ўсіх гэтых сэкт і школ, Маркс выкоўваў адзіную тактыку пралетарскай барацьбы рабочае клясы ў розных краінах.

---

**„Між капіталістычным і камуністычным грамадзтвам ляжыць пэрыяд рэвалюцыйнай перабудовы аднаго ў другое. Гэтаму адпавядае і ў палітыцы пераходны пэрыяд, у час якога ня можа быць іншай дзяржавы, акрамя рэвалюцыйнай дыктатуры пралетарыяту"**

*(МАРКС)*

XVIII 7925 (XII)

Пасьля падзеньня Парыскай Камуны (1871 г.), якую так глыбока, метка, бліскуча і дзейна, рэвалюцыйна ацаніў Маркс, і пасьля расколу Інтэрнацыяналу бакуністамі, існаваньне яго ў Эўропе стала немагчымым. 1-й Інтэрнацыянал кончыў сваю гістарычную ролю, уступіўшы месца эпосе нявымеральна больш буйнага росту рабочага руху ва ўсіх краінах сьвету, імення эпосе роста яго ўшыркі, стварэньня масавых сацыялістычных рабочых партый на базе асобных нацыянальных дзяржаў.

Узмоцненая работа ў Інтэрнацыянале і яшчэ болей узмоцненыя тэарэтычныя заняткі канчаткова падарвалі здароўе Маркса. Ён працягваў сваю перапрацоўку палітычнай экономіі і скончэньне „Капіталу“, вывучаючы шэраг моў (напр., рускую), але скончыць „Капітал“ не дала яму хвароба.

2 сьнежня 1881 г. памёрла яго жонка, 14 сакавіка 1883 г. Маркс, ціха заснуў навекі ў сваім крэсьле.

Державна публічна бібліотека 27 окт 3.

# Вучэньне Маркса

**Марксызм**—сыстэма поглядаў і вучэньня Маркса. Маркс зьявіўся пасьлядоўнікам і гэніяльным завяршыцелем трох галоўных ідэйных плыняў XIX веку, належачых тром найбольш перадавым краінам чалавецтва: клясычнай, нямецкай філёзофіі, клясычнай ангельскай палітычнай экономіі і францускага сацыялізму ў сувязі з францускімі рэвалюцыйнымі вучэньнямі наогул. Прызнаваемая нават праціўнікамі Маркса выключная пасьлядоўнасьць і цэльнасьць яго поглядаў, якія даюць у сукупнасьці сучасны і матэрыялізм і сучасны навуковы сацыялізм, як тэорыю і праграму рабочага руху, усіх цывілізаваных краін сьвету.

Па пытаньню аб адносінах сацыялізму Маркса да дробнага сялянства, якое застанецца ў эпоху экспропрыяцыі экспропрыятараў, неабходна ўказаць на заяўленьне Энгельса, які выразіў думкі Маркса:

„Калі мы авалодаем дзяржаўнай уладаю, мы ня будзем і думаць аб тым, каб гвалтоўна экспропрыіраваць дробных сялян (усё роўна, з узнагародаю ці не), як гэта мы вымушаны будзем зрабіць з буйнымі землеўласьнікамі. Наша задача ў адносінах да дробных сялян будзе заключацца перш за ўсё ў тым, каб іх прыватную вытворчасьць і прыватную ўласнасьць перавесьці ў таварыскую, але не гвалтоўным шляхам, а з дапамогаю прыкладу і прапановы грамадзкай дапамогі для гэтай мэты. І тады ў нас, зразумела, будзе дастаткова сродак, каб даказаць селяніну ўсе перавагі такога пераходу, перавагі, якія і цяпер ўжо павінны быць яму растлумачаны“.

(Ленін, том XVIII, 3-е выданьне).

---

Бальшавіцкімі тэмпамі і высокай якасьцю падрыхтоўкі і правядзеньня веснавой сяўбы, сапраўдным энтузіязмам і ўдарніцтвам на калгасных палёх дакажам сваю адданасьць заветам вялікіх правадыроў працоўных—МАРКСА і ЛЕНІНА.

# Міжнародны дзень работніц*)

Галоўнае, асноўнае ў бальшавізьме і ў расійскай Кастрычніцкай рэвалюцыі ёсьць уцягваньне ў палітыку іменна тых, хто быў больш за ўсіх прыгнечаны пры капіталізьме. Іх душылі, іх ашуквалі, іх рабавалі капіталісты і пры манархіі і ў дэмакратычных буржуазных рэспубліках. Гэты ўціск, гэта ашуканства, гэтае рабаваньне народнай працы капіталістамі былі няміночы, пакуль трымалася прыватная ўласнасьць на зямлю, фабрыкі і заводы.

Сутнасьць бальшавізму, сутнасьць савецкай улады ў тым, каб, выкрываючы хлусьню і фальшывасьць буржуазнага дэмакратызму, скасоўваючы прыватную ўласнасьць на землі, фабрыкі, заводы, усю дзяржаўную ўладу сканцэнтраваць у руках працоўных і эксплёатуемых мас. Яны самі, гэтыя масы, бяруць у свае ўласныя рукі палітыку, гэта значыць справу будаўніцтва новага грамадзтва. Справа цяжкая, масы забіты і прыдушаны капіталізмам, але іншага выхаду з наёмнага рабства, з рабства капіталістаў няма і быць ня можа.

А ўцягнуць у палітыку масы нельга без таго, каб не ўцягнуць у палітыку жанчын. Бо жаночая палова роду чалавечага пры капіталізьме прыгнечана ўдвая. Работніца і сялянка прыгнечаны капіталізмам і звыш таго яны нават у самых дэмакратычных з буржуазных рэспублік застаюцца, па-першае, няпоўнапраўнымі, бо роўнасьці з мужчынай закон ім не дае; па-другое,— і гэта галоўнае,—яны застаюцца ў „хатнім рабстве“, „хатнімі рабамі“, будучы прыдушаны самай дробнай, самай чорнай, самай цяжкай, самай атупляючай чалавека работай кухні і наогул адзіночнай хатняй гаспадаркі.

Бальшавіцкая, савецкая рэвалюцыя падразае карэньні прыгнечаньня і няроўнасьці жанчын так глыбока, як не адважылася падрэзаць іх ні адна партыя і ні адна рэвалюцыя ў сьвеце. Ад няроўнасьці жанчын з мужчынай па закону ў нас, у Савецкай Расіі, не засталося і сьледу. Асабліва ганебная, подлая, фальшывая няроўнасьць у шлюбным і сямейным праве, у адносінах да дзіцяці зьнішчана савецкай уладай поўнасьцю.



Гэта толькі першы крок да вызваленьня жанчыны. Але ні адна з буржуазных, хоць-бы з найбольш дэмакратычных рэспублік, не адважылася зрабіць і гэтага першага кроку. Не адважылася са страху перад „сьвяшчэннай прыватнай уласнасьцю“.

Другі і галоўны крок— скасаваньне прыватнай уласнасьці на зямлю, фабрыкі і заводы. Гэтым і толькі гэтым адкрываецца шлях да поўнага і сапраўднага вызваленьня жанчыны, вызваленьня яе ад „хатняга рабства“ шляхам пераходу ад дробнай адзіночнай хатняй гаспадаркі да буйнай аграмаджанай.

Пераход гэты цяжкі, бо справа ідзе тут аб пераробцы найбольш укарэненых, прывычных, заскарузлых, акасьцянелых „парадкаў“ (па праўдзе кажучы брыдот і дзікасьцяй, а не—„парадкаў“), але пераход пачат, справа зрушана, на новы шлях мы ўступілі.

І ў міжнародны дзень работніц ва ўсіх краінах сьвету на вялікіх сходах работніц будуць раздавацца прывітаньні Савецкай Расіі, пачаўшай нячувана трудную і цяжкую, але вялікую, усясьветна вялікую і сапраўды вызваленчую справу. Будуць раздавацца бадзёрыя заклікі ня падаць духам перад тварам лютай і зьверскай буржуазнай рэакцыі. Чым „свабадней“, або „дэмакратычней“ буржуазная краіна, тым больш лютуе і зьверствуе банда капіталістаў супроць рэвалюцыі рабочых; прыклад таму дэмакратычная рэспубліка Паўночна Амэрыканскіх Злучаных Штатаў. Але рабочы у масе ўжо прачнуўся. Імпэрыялістычная вайна канчаткова разбудзіла сьпячыя паўсонныя, косныя масы і ў Амэрыцы, і ў Эўропе, і ў адсталай Азіі.

Лёд зломлен ва ўсіх краінах сьвету.

Вызваленьне народаў ад гнёту імпэрыялізма, вызваленьне рабочых і работніц ад гнёту капіталу ідзе нястрымна наперад. Гэту справу павялі наперад дзесяткі і сотні мільёнаў рабочых і работніц сялян і сялянак. І таму гэта справа волі працы ад уціску капіталу пераможа ва ўсім сьвеце.

Напісана 4 сакавіка 1921 году. Надрукавана ў дадатку да „Праўды“ № 51, 8 сакавіка 1921 г.

*) Міжнародны дзень работніц — 8 сакавіка ўстаноўлен па прапанове т. Клары Цэткін у 1910 г. на міжнарканфэрэнцыі сацыялістак у г. Капэнгагене, у Расіі ўпяршыню сьвяткаваўся ў 1913 г.

# СУСТРЭЦЬ ВЯСНУ Ў БАЯВОЙ ГАТОЎНАСЬЦІ!

## КОЖНУЮ ГАДЗІНУ — НА ДАСКАНАЛЫ ВУЧОТ. АРГАНІЗАВАНА З БАЛЬШАВІЦКАЙ ЗАЎЗЯТАСЬЦЮ ВЫСТУПІЦЬ У ПОЛЕ

Правядзеньне веснавой пасеўнай кампаніі гэтага году мае рашаючае значэньне ў барацьбе за сацыялістычны ўраджай, за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў.

Зусім зразумела, што посьпех сяўбы і далейшая наша барацьба за высокі ўраджай будзе залежыць ад таго, як мы падрыхтуемся да выхаду ў поле, як мы расставім свае сілы ў полі з тым, каб не расьцягнуць тэрміны сяўбы, каб сяўбу скончыць максымальна ў 10—15 дзён. Усё гэтае прымушае нас зьвярнуць выключную ўвагу на падрыхтоўку да сяўбы.

Новы закон аб абавязковай пастаўцы збожжа дзяржаве зьяўляецца важнейшым рычагом у барацьбе за ўраджай, за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў. Гэты закон дае магчымасьць калгасам загадзя разьлічваць—колькі збожжа калгас павінен будзе здаць дзяржаве і колькі застанецца ў поўным распараджэньні калгасаў і калгасьнікаў. Новы закон палягчае вядзеньне плянавай гаспадаркі для кожнага калгасу, паляпшае дабрабыт кожнага ў асобку калгасьніка.

Кожны калгас і калгасьнік павінны памятаць, што чым больш і лепш яны засеюць, тым большы яны атрымаюць ураджай, больш застанецца для сваіх патрэб і для калгаснага гандлю.

Правадыр партыі і рабочых тав. Сталін у сваёй прамове на першым усесаюзным зьезьдзе калгасьнікаў - ударнікаў 19 лютага 1933 г. указаў, што мы павінны дабіцца таго, каб зрабіць усіх калгасьнікаў заможнымі. **„І калі мы будзем працаваць сумленна, працаваць на сябе на свае калгасы,—то мы даб'ёмся таго, што за якія-небудзь два - тры гады паднімем усіх калгасьнікаў, былых беднякоў і былых серадлякоў, да ўзроўню заможных, да ўзроўню людзей, якія карыстаюцца багацьцем прадуктаў і вядуць зусім культурнае жыцьцё".** (Сталін).



Кавалі калгасу імя Дзяржынскага (Менскі раён)—Хадкевіч П. і Трушкевіч М. за рамонтам плугоў

Вось чаму зараз ужо, рыхтуючыся да веснавой сяўбы, кожны калгас і калгасьнік павінны цьвёрда памятаць, што ад пасьпяховасьці правядзеньня сяўбы будзе залежыць ступень умацаваньня калгаснай вытворчасьці і палепшаньня дабрабыту калгасьнікаў.

Мы маем рад узорных калгасаў у справе падрыхтоўкі да веснавой сяўбы. Напрыклад, калгас „Чырвоны Пуцілавец", Заслаўскага раёну, да 5 лютага яшчэ поўнасьцю засыпаў і ачысьціў увесь свой насенны матар'ял, атрамантаваны ўвесь сельска-гаспадарчы інвэнтар. Наладжан збор попелу. Калгас імя „1-га мая" таксама гатоў ужо к выхаду ў поле—падрыхтавана насеньне, адрамантаваны і прымацаван да кожнай вытворчай брыгады інвэнтар, коні ў добрым доглядзе. Такое-ж становішча мы маем і ў калгасе „Дружба", Уваравіцкага раёну і па цэламу раду калгасаў.

Але разам з гэтым ёсьць і такія калгасы, у якіх падрыхтоўчая работа да сяўбы пушчана на самацёк. Па некаторых калгасах да гэтага часу яшчэ пануюць развражаньні аб тым, што „да вясны яшчэ далёка, пасьпеем", „няма чаго сьпяшацца з ачысткай насеньня" („Ударнік пяцігодкі", Уваравіцкага раёну і інш.). Зусім зразумела, што ўсе гэтыя развражаньні—справа клясавага ворага кулака, які ўсяляк імкнецца падарваць наша пасьпяховае калгаснае будаўніцтва.

Кулацтва намі разгромлена як кляса, але яно не дабіта яшчэ. Гэта павінен памятаць кожны калгасьнік. Трэба памятаць яшчэ і тое, што кулак зараз ня той, што быў раней. Ён „зразумеў абстаноўку, якая зьмянілася, зразумеў сілу і магутнасьць новага ладу ў вёсцы, і зразумеўшы гэта, перабудаваўся, зьмяніў сваю тактыку,—перайшоў ад простай атакі супроць калгасаў да работы ціхай сапай" (Сталін). Кулак зараз не агітуе ўжо супроць калгасаў, бо ведае, што бядняк і серадняк пераканаўся ў перавазе калектыўнай гаспадаркі над дробнай аднаасобнай. Ён зараз „за калгасы", імкнецца пралезьці ў калгас і знутры разваліць яго,—падрывае працоўную



Рамонт с.-г. інвэнтару ў калгасе „Новы Шлях“

дысцыпліну, арганізуе раскрадваньне грамадзкай уласнасьці, арганізуе сабатаж загатовак і сяўбы.

Задача партыйных ячэек і калгасьнікаў—павысіць клясавую пільнасьць. Калгасьнікі-ўдарнікі, пад кіраўніцтвам партыі павінны быць перадавікамі ў барацьбе з недабітым кулаком. Вырваць яго ўплыў у калгасах. Гультаям, рвачам, падрыўшчыкам працдысцыпліны—прамым дапаможнікам кулака—нанесьці руйнуючы ўдар.

**„Цяпер задача састаіць у тым, каб умацаваць калгасы арганізацыйна, вышыбіць адтуль шкодніцкія элемэнты, падабраць сапраўдныя правераныя бальшавіцкія кадры для калгасаў і зрабіць калгасы сапраўды бальшавіцкімі“** (Сталін). Таму, рашуча трэба праводзіць ачыстку калгасаў ад кулацкіх элемэнтаў, ад усіх тых, хто ціхай сапай падрывае калгасную вытворчасьць.

Мы ўступілі ў рашаючыя дні, падрыхтоўкі да веснавой сяўбы. Трэба максымальна выкарыстаць кожны дзень, кожную гадзіну на падрыхтоўку, як важнейшую сустаўную частку правядзеньня веснавой пасеўнай кампаніі.

Сьнежанськi (1932 г.) пленум ЦК КП(б)Б указаў, што **„ў выкананьні намечаных канкрэтных заданьняў па павышэньні ўраджайнасьці і плянаў сяўбы выключнае значэньне мае своечасовая і арганізаваная падрыхтоўка і правядзеньне веснавой сяўбы“.**

**Поўнасьцю засыпаць і ачысьціць насеньне, падрыхтаваць трактар і каня, вывезьці зімою на поле ня менш 60 проц. гною, завезьці мінэральныя ўгнаеньні, арганізаваць збор і захаваньне хатняга попелу, давесьці да кожнай вытворчай брыгады канкрэтна-распрацаваны плян веснавой сяўбы,**—такава задача сёнешняга дню. За гэта павінен біцца кожны калгас, кожная МТС з усёй бальшавіцкай настойлівасьцю ў застаўшыя дні падрыхтоўчагага пэрыяду. Максымум увагі заключэньню колдагавароў МТС з калгасамі.

**Максымум увагі якаснай падрыхтоўцы да сяўбы.**

Веснавая пасеўная кампанія—адказьнейшая гаспадарча-палітычная кампанія. Малейшае паслабленьне ўвагі гэтай кампаніі, малейшая зацяжка з падрыхтоўкай да выхаду ў поле—пацягне за сабою зацяжку сяўбы. А гэта прывядзе к таму, што калгас атрымае меншы ўраджай і калгасьнікі менш будуць мець у сваім распараджэньні збожжа пасьля выкананьня дзяржаўнага заданьня па абавязковай пастаўцы зярна.

**Усе сілы на ўзорную падрыхтоўку да сяўбы! Ні хвіліны зацяжкі.**

**Вышэй клясавую пільнасьць!**

Камуністы, камсамольцы, калгасьнікі-ўдарнікі,—на перадавыя пазыцыі ў барацьбе за якаснае правядзеньне сяўбы, за сацыялістычны ўраджай!

Сустрэць вясну ў баявой гатоўнасьці!

# Кожны калгасьнік павінен стаць заможным

**„Зрабіць усіх калгасьнікаў заможнымі“**—так акрэсьліў новую задачу партыі ў калгасным будаўніцтве тав. Сталін на Ўсесаюзным зьезьдзе калгасьнікаў-ударнікаў.

Ці пасільна нам гэтая задача? Так, пасільна і ўпаўне ажыцьцявіма—адзінадушна заявілі дэлегаты зьезду. Самыя лепшыя і ў дастатковай колькасьці землі дзяржава передала ў працоўнае карыстаньне калгасам. Аб малазямельлі ўжо больш няма і гутаркі. На працягу першай пяцігодкі дзяржава дала калгасам паўтараста тысяч трактароў, на адзін мільярд 600 мільёнаў рублёў розных складаных сельска-гаспадарчых машын і ўзброенасьць калгасаў машынамі павялічваецца з кварталу ў квартал штогодня. Усё ёсьць.

Што-ж патрэбна ад калгасаў, каб стаць заможнымі?

Ад калгасьнікаў патрабуецца толькі адно—**„працаваць сумленна і дзяліць калгасныя даходы па працы, берагчы калгаснае дабро, берагчы трактары і машыны, устанавіць добры догляд каня, выконваць заданьні нашай рабоча-сялянскай дзяржавы, умацоўваць калгасы і вышыбіць вон з калгасаў пралезшых туды кулакоў і падкулачнікаў“** (Сталін).

**„Сіла ў вашых руках“**—сказаў тав. Сталін калгасьнікам-ударнікам.—**„Варта толькі палепшыць скарыстаньне машын і трактароў, варта толькі**



Рамонт трактару ў Койданаўскай МТС

**палепшыць апрацоўку зямлі і мы даб'емся таго, што павялічым колькасьць нашых прадуктаў удвое, утрое. А гэта зусім даволі для таго, каб зрабіць усіх калгасьнікаў заможнымі працаўнікамі калгасных палёў".**

Першая веснавая сяўба другой пяцігодкі зьяўляецца першым затое, каб зрабіць усіх калгасьнікаў заможнымі, каб зрабіць нашы калгасы бальшавіцкімі. Насеньне, інвэнтар, здаровы конь, жалезная таварыская дысцыпліна, сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва—вось што рашае посьпехі веснавой сяўбы.

Перадавыя калгасы БССР у адказ на ўказаньні тав. Сталіна і на адозву Ўсесаюзнага зьезду калгасьнікаў-ударнікаў адказваюць новай хваляй сацыялістычнага спаборніцтва і баявымі тэмпамі падрыхтоўкі да сяўбы. У Дрысенскім раёне дзевяць калгасаў Прудзінкаўскага сельсавету першымі ўключыліся ва ўсесаюзнае спаборніцтва на лепшае правядзеньне веснавой сяўбы.

Калгасы „Пагран Маяк", „Новы шлях", „Згода", „Кастрычнік", „Камунар", імя Будзённага, „Новы строй", і „Зорка" ня толькі поўнасьцю засыпалі насенныя і страхавыя фонды для сваіх плошчаў, але і аказваюць сацыялістычную дапамогу калгасу „Кліч Леніна", свайго сельсавету і тром калгасам Каркалецкага сельсавету. Усяго калгасы Прудзінскага сельсавету даюць іншым калгасам у парадку сацыялістычнай дапамогі 90,5 цнт яравых збожжавых культур і 95 цнт бульбы. Інвэнтар, коні, і брыгады ў калгасах Прудзінскага сельсавету ў поўнай баявой гатоўнасьці. Да 15 сакавіка калгасы гэтага сельсавету абавязаліся поўнасьцю выканаць пляны зімовага вывазу гною.

Гэтыя прыклады бальшавіцкай работы калгасаў Прудзінскага сельсавету сьведчаць аб тым, што тут кіруюць сапраўдныя камуністы і лепшыя клясава-вытрыманыя беспартыйныя калгасьнікі-ўдарнікі. Што партыйныя ячэйкі і Прудзінскі сельсавет і раённыя арганізацыі па-бальшавіцку кіруюць работай сваіх калгасаў.

Зусім іншае становішча мы маем у тых раёнах і ў тых калгасах, дзе раённыя арганізацыі падмянілі жывое канкрэтнае кіраўніцтва саноўна-бюракратычным папяровым кіраўніцтвам, дзе на чале калгасаў знаходзяцца буржуазныя перараджэнцы, кулацкія агенты з партыйным білетам у кішэні. Чым-жа іншым, як ня гэтым можна тлумачыць такое становішча, калі многія калгасы Расонскага, Полацкага, Гарадокскага, Сіроцінскага, Шклоўскага, Бялыніцкага, Плешчаніцкага, Сеньненскага і Крупскага раёнаў да гэтага часу яшчэ не забясьпечылі сябе насеньнем, асабліва па ільну, слаба разгарнулі рамонт інвэнтару і дрэнна рыхтуюць цягавую сілу да сяўбы.

Адставаньне калгасаў гэтых раёнаў сьведчаць аб тым, што яны да гэтага часу не ачышчаны ад кулацкага сьмецьця, што ў кіраўнікоў гэтых калгасаў прытуплена клясавае чуцьцё. У гэтым вінаваты ў першую чаргу камуністы і партыйныя ячэйкі ў цэлым. Камуністы закліканы кіраваць калгасамі, „яны павінны несьці ўсю паўнату адказнасьці за работу ў вёсцы" (Сталін).

Доўг кожнага камуніста—па-бальшавіцку ўзяцца самаму і мабілізаваць масы калгасьнікаў на барацьбу з недабітым яшчэ кулаком, за ачыстку калгасаў ад клясава-варожых элемэнтаў, за моцны бальшавіцкі калгас. Трэба павесьці бязьлітасную барацьбу з гультаямі, прагульшчыкамі, разгільдзяямі, якія зьяўляюцца прамымі дапаможнікамі клясавага ворага—кулака. Трэба памятаць, што, чым хутчэй калгасы вызваляцца ад усіх гэтых элемэнтаў, тым хутчэй будзе вырашана пастаўленая партыяй задача—„зрабіць усіх калгасьнікаў заможнымі".

---

**„Для ўстанаўленьня працоўнай дысцыпліны мала таго каб гультаёў гнаць, трэба яшчэ і арганізаваць работу. Арганізаваць на справе работу зараз можна толькі правільна яе разьмяркоўваючы паміж калгасьнікамі, правільна ацэньваючы работу калгасьнікаў, улічваючы гэтую работу як належа і на справе забясьпечваючы разьмеркаваньне даходаў калгасьнікаў па выпрацаваным працадням. Інакш працоўнай дысцыпліны не ўмацуеш".**

**(ЯКАЎЛЕЎ).**

# НОВЫМІ КАЛЁНАМІ ЎДАРНІКАЎ КАЛГАСНЫХ ПАЛЁЎ СУСТРЭНЕМ УСЕБЕЛАРУСКІ ЗЬЕЗД КАЛГАСЬНІКАЎ-УДАРНІКАЎ!

## РАПАРТУЕМ ЗЬЕЗДУ

*(Менскі раён)*

Калгас „Чырвоны Араты“, Ратамскага сельсавету, гатоў ужо к выходу ў поле. Насенны фонд засыпан на 120 проц., і адсартаван. Створан таксама і страхавы фонд. Да 12 лютага наш калгас адрамантаваў увесь сельска-гаспадарчы інвэнтар і змаваны знаходзіцца ў парадку пад страхой. Адрамантаван транспарт і збруя, зроблена 5 новых павозак. Наладжан збор попелу. Палепшан уход за konямі, у веснавую сяўбу ні адзін конь ня выйдзе ў нас з строю.

Ды і ня толькі ў падрыхтоўцы да веснавой сяўбы мы маем дасягненьні. Па выкананьні ўсіх абавязацельстваў перад пралетарскай дзяржавай наш калгас таксама зьяўляецца перадавым ў Ратамскім сельсавеце. Усе віды загатовак намі перавыкананы ў сьнежні месяцы 1932 г. У гонар раённага зьлёту калгасьнікаў-ударнікаў наш калгас здаў чырвоным абозам 4 цэнтнэры хлебных лішкаў дзяржаве.

Усіх гэтых посьпехаў мы дабіліся дзякуючы адданасьці калгасьнікаў калгаснай вытворчасьці. Ударныя тэмпы ў працы, разгорнутае соцспаборніцтва—займаюць пачэснае месца ў штодзённай нашай працы. Асабліва вызначаюцца са ўсёй калгаснай масы такія ўдарнікі, як **Шчуцкі** Іван, **Клюцкі** Васіль, **Садоўская** Кася, **Хмяльніцкі** Сьцяпан, якія былі абраны на раённы зьлёт калгасьнікаў-ударнікаў.

Мы завяраем Усебеларускі зьезд ударнікаў-калгасьнікаў, што першую бальшавіцкую вясну другой пяцігодкі правядзем з посьпехам. Не застанаўліваючыся на дасягнутых посьпехах, мы прыкладзем усе сілы каб наш калгас стаў сапраўды бальшавіцкім калгасам.

Няпрымірымая барацьба з недабітым яшчэ кулаком, барацьба з гультаямі і прагульшчыкамі, высокая працоўная дысцыпліна, сацспаборніцтва і ўдарніцтва,—галоўнейшае ў барацьбе за бальшавіцкі калгас. За ажыцьцяўленьне ўсяго гэтага мы будзем біцца са ўсёй бальшавіцкай настойлівасьцю.

По даручэньні ўсіх калгасьнікаў калгасу „Чырвоны Араты“—
старшыня калгасу **Клюцкі**.

## Калгасны шлях—адзіна правільны шлях для працоўных .сялян

### Ліст аднаасобнікаў пасёлку Ульянаўка і вёскі Дзегцярова ў ліку 16 гаспадарак, падаўшых заявы аб уступленьні ў калгас.

**Дарагія таварышы калгасьнікі і аднаасобнікі!**

Мы прачыталі ў газэце прамову правадыра нашага тав. **Сталіна** на Ўсесаюзным зьезьдзе калгасьнікаў-ударнікаў, прачыталі аж некалькі разоў і абгаварылі. І сапраўды праўду сказаў тав. Сталін, што **„сярод сялян ёсьць яшчэ нямала такіх людзей, у тым ліку сярод калгасьнікаў, якія сумняваюцца ў правільнасьці калгаснага шляху“.** Вось мы таксама да гэтага часу ня ўступалі ў калгас, цягнулі ўсё, глядзелі... А чаму? Мы-ж таксама ня ворагі калгасаў. Мы-ж таксама хочам лепш жыць. Але трымаліся да гэтага часу за старое жыцьцё таму, што ў нас былі сумненьні наконт правільнасьці калгаснага шляху, таму, што верылі розным кулацкім чуткам, хлусьні аб тым, што ў калгасе „вы памрэце з голаду“ і г. д.

Аднак жыцьцё разьбіла ўсялякую хлусьню кулакоў і падкулачнікаў. На практыцы жыцьця нашых суседзяў ў калгасе імя Варашылава, Ратамскага сельсавету, мы пераканаліся, што толькі калектыўнай працай можна пабудаваць шчасьлівае жыцьцё, што **калгасны шлях, шлях сацыялізму, зьяўляецца адзіна правільным шляхам для працоўных сялян“** (Сталін). Нашы суседзі ў калгасе Варашылава куды больш атрымалі з ураджая ў 1932 г., чым мы ў сваіх аднаасобных гаспадарках.

І пераканаўшыся ў правільнасьці калгаснага шляху, у гонар раённага зьлёту і Ўсебеларускага зьезду калгасьнікаў-ударнікаў падалі заявы ў калгас імя Варашылава аб прыёме. Поўнасьцю засыпаем насеньне, уносім сваю маемасьці і абяцаем быць прыкладнымі калгасьнікамі.

Мы добра разумеем, што кулак не дабіт яшчэ, што ён шкодзіць яшчэ калгасам. Таму, мы абавязуемся рашуча змагацца з кулаком і яго дапаможнікамі.

Гультай—вораг калгасу, прамы дапаможнік кулаку. Мы гэта добра разумеем і таму абавязуемся добрасумленна працаваць у калгасе і весьці рашучую барацьбу з гультаямі і прагульшчыкамі, а таксама берагчы грамадзкую ўласнасьць калгасу.

Уступаючы ў калгасе, мы заклікаем усіх працоўных сялян—аднаасобнікаў:

Досыць сумнявацца ў правільнасьці калгаснага шляху! Гэты шлях праверан і даказан ужо на практыцы. Уступайце на гэты шлях! Ідзіце разам з намі, пад кіраўніцтвам нашай партыі будаваць бальшавіцкія калгасы. Досыць сядзець у дробнай аднаасобнай гаспадарцы, ды кожную вясну цярпець недахваткі хлеба.

Няхай жыве калгасны шлях—адзіна правільны шлях працоўных сялян!

Няхай жыве наш любімы правадыр тав. Сталін.

По даручэньні сходу: **Кукевіч, Сабіла, Халько, Крэйчман, Бабровіч, Сьпічонак, Ждановіч.**

# Гэроі калгаснай зямлі

Прыехала іх у Маскву 45 чалавек. Дэлегаты з Савецкай Беларусі на Ўсесаюзны зьезд лепшых калгасьніхаў-ударнікаў. Актыўнейшыя змагары за сацыялістычную пераробку вёскі, за канчатковую перамогу новага, сацыялістычнага ладу ў сельскагаспадарчай вытворчасьці.



**Трушкевіч Янка**—ударнік паляводчай брыгады калгасу імя Дзяржынскага, прэміяваны прамтаварамі

### Хто яны гэтыя ўдарнікі?

Старшыні калгасаў, брыгадзіры, радавыя калгасьнікі, усе ударнікі. Справай, жывой справай—цэнтнэрамі павышанага ўраджаю, літрамі павялічанага ўдою, галовамі прыросту стада,—даказалі сваю адданасьць калгаснай вытворчасьці.

### Вучэцеся ў Харламава даглядаць коняй

ЦК УсеКП(б) і СНК СССР у сваёй пастанове „аб падрыхтоўцы рабочай жывёлы да сяўбы“ з усёй паўнатой падкрэсьлілі рашаючую ролю, якую адыгрывае рабочая жывёла ў часе веснавой пасеўнай кампаніі.

Мінулагодняя практыка многіх калгасаў паказала як ускладняецца работа калгасьнікаў, калі коні да сяўбы падрыхтаваны дрэнна. Норма выпрацоўкі тады ня выконваецца, тэрміны сяўбы расьцягваюцца, калгас ня мае магчымасьці выканаць плян сяўбы.

Работа па ўтрыманьні коняй у камуне імя Карла Лібкнэхта, Быхаўскага раёну, у належным утрыманьні. Камунары, шляхам мэтызацыі, дабіліся таго, што больш паловы усіх коняй камуны—палепшанай пароды, „ардэнскай“ і „арлоўскай“. Прычыны такога добрага становішча коняй крыюцца ў тым, што конюхам у камуне працуе тав. **Харламаў**, лепшы ўдарнік, адданы камунар, абраны дэлегатам на Ўсесаюзны зьезд.

Да 1919 году Харламаў быў батраком. У 1919 г. арганізавалася невялікая камуна імя Лібкнэхта. Харламаў адным з першых стаў камунарам. Цяпер ён мае 8-мі гадовы стаж бесьперапыннай работы на канюшні камуны. 8 гадоў упарта дабіваецца палепшаньня пароды коняй сваёй камуны. І вынікі ў наяўнасьці. У камуне толькі 5—6 коняй звычайнай „сялянскай“ пароды—малыя.

Калі ў Магілеве была міжраённая выстаўка конягадоўлі—коні камуны Карла Лібкнэхта занялі адно з першых месц. Брыгада Харламава атрымала прэмію 400 рублёў, з якіх яму, брыгадзіру—200 руб. На раённай выстаўцы ў Быхаве коні камуны так. сама займаюць пачэснае месца. Харламоў зноў атрымлівае прэмію—50 р. і грамату лепшага ўдарніка.

Цяпер коні хоць сёньня гатовы да палявых работ.

Тав. Харламаў расказвае:

Устаю я ў 3 з паловай гадзіны раніцы. А 4-й гадзіне кожны дзень у адзін і той-жа час—кармёжка коняй. Праз 2-3 гадзіны—вадапой. Калі конь перад работай накормлены і напоены, ён заўсёды будзе ў добрым выглядзе. У часе абедзенага перапынку коні кормяцца і пояцца другі раз. На ноч ім закладваецца сена. Пры чым, кожны конь атрымлівае пэўную норму кармоў. Кожны конь мае свой станок, які чысьціцца штодзенна. Коні чысьцяцца пэрыядычна, а маладняк амаль штодня.

Харламаў дае кожнаму каню дзень адпачынку адзін раз у тыдзень. Кожны конь мае сваю збрую:



**Герасімовіч П.**—ударнік стэльмах калгасу імя Дзяржынскага (Менск. р.)

хамут, шлеі, аброць,—усё прыгнана, зроблена па разьмеру. Таму няма ў камуне ні змуленых, ні зьбітых коняй.

### Тав. Ралко расказвае аб сваім калгасе...

Паслан ён на зьезд калгасам імя Чырвонай арміі, Віцебскага раёну. Ралко намесьнік старшыні праўленьня і не аднойчы прэміраваны за ўдарную работу.



**т. Лі-Вун-лін—лепшы** ўдарнік кітайска-нацыянальнага калгасу (Віцебшчына)

— Пры арганізацыі калгасу,—расказвае тав. Ралко,—у 1929 годзе ўступіла ўсяго 11 гаспадарак. Да веснавой сяўбы 1930 г. лік гаспадарак у калгасе дайшоў да 27. Асеньняя сяўба 1930 г. дала яшчэ 10 гаспадарак. А цяпер у калгасе 161 гаспадарка і пададзена 30 заяў ад аднаасобнікаў аб прыёме.

Гэты прылій калгас мае дзякуючы добрай рабоце калгасу, дзякуючы мабілізацыі актыву калгасьнікаў вакол партыйнай арганізацыі, дзякуючы значнаму павышэньню калгаснага ўраджаю і росту даходаў калгасьнікаў.

Дзяржаве была здадзена збожжа ў першую чаргу. На полі малацілі і проста з-пад малатарні везьлі на ссыпны пункт. Але калгасьнікі гэтым не абмежаваліся. Калгас выступіў на калгасны рынак—адчыніў у Віцебску свой ларок, каторы сыстэматычна папаўняўся садавінай і гароднінай. Калгасьнікі калгасу „Чырвоная армія“ атрымалі даходу—400 тысяч рубл.

— Каб сёньня наступіла вясна, дык не напужала-б нашых калгасьнікаў,—гаворыць усьміхаючыся Ралко.—У калгасе ўсё ўжо гатова да сяўбы: насеньне ссыпана поўнасьцю, па ўсім палявым і гароднім культурам. Ня толькі ссыпана, але і ачышчана і адсартавана. Калгас ня толькі для сябе засыпаў насеньне, але яшчэ здаў у сельпо больш цэнтнэра добраякаснага насеньня розных гародніх культур.

Коні таксама поўнасьцю надрыхтаваны да вясны. Кожны калгасьнік з палявой брыгады ведае свайго каня. Кожны конь мае сваю збрую, за якую адказвае конюх разам з прымацаваным калгасьнікам. Коні акуратна кормяцца. Да веснавой сяўбы створан недатыкальны фуражны фонд, якога хопіць да канца пасеву. Слабыя коні падкормліваюцца лепш і адпачываюць.

Калгасам вывезена ўжо на поле больш 13 з паловай тыс. вазоў гною. Работа ня спыняецца. Калгасьнікі вывозяць гной ад неабагуленага стада на калгаснае поле. Калгас завёз два вагоны мінэральнага ўгнаеньня. Сабрана 300 пудоў попелу для ўгнаеньня глебы.

Тав. Ралко, член камісіі садзейнічаньня па загатоўкам. Сельсавет кінуў яго падцягнуць вёску Альгоў. Кулацкі сабатаж у Альгове быў зломлен, як толькі зьявіўся туды Якаў Сьцяпанавіч Ралко. Плян загатовак па вучастку выканан поўнасьцю і датэрмінова.

Далей Якаў Сьцяпанавіч Ралко скромна расказвае, як ён тры разы атрымліваў прэміі за ўдарную работу ў калгасе. **Т. А.**



Падрыхтоўка сеялкі ў калгасе „Праца“

**„Калі мы будзем працаваць сумленна, працаваць на сябе, на свае калгасы,—то мы даб‘ёмся таго, што за якія-небудзь два-тры гады паднімем усіх калгасьнікаў, былых беднякоў і былых сераднякоў, да ўзроўню заможных, да ўзроўню людзей, якія карыстаюцца багацьцем прадуктаў і вядуць зусім культурнае жыцьцё“. (Сталін).**

**Калгасьнікі! ад вас саміх залежыць узорная падрыхтоўка і правядзеньне весенавой сяўбы, павышэньне ўраджайнасьці калгасных палёў, павышэньне даходнасьці калгасу і калгасьнікаў.**

# ЖАЛЕЗНУЮ ДЫСЦЫПЛІНУ Ў КАЛГАСНУЮ БРЫГАДУ

Поўнае выкарыстаньне ўсіх магчымасьцяй і пераваг буйнай калектыўнай гаспадаркі магчыма толькі ўстанаўленьнем моцнай працоўнай дысцыпліны. А між тым, у многіх нашых калгасах дысцыпліна зьяўляецца самым адсталым вучасткам.

Адсутнасьць належнай працоўнай дысцыпліны дала сябе адчуваць вельмі балюча шмат у якіх калгасах. У калгасе, напрыклад, „Рухавік сацыялізму“, Лагойскага раёну, вельмі дрэнна была праведзена ў 1932 г. уборка. У чым тут справа? Кожны добрасумленна працаваўшы калгасьнік, дае на гэтае запытаньне адналькавы адказ:

— Ня было працоўнай дысцыпліны.

Калі авёс пасьпеў і ў некалькі дзён яго трэба ўбраць і зьвезьці, многія калгасьнікі, і асабліва жанчыны паддаліся на вудачку клясавага ворага і ня выходзілі на работу. У выніку гэтага—пяць гэктараў аўсу асыпалася.

Вельмі дрэнна выходзілі на работу і па выкапцы бульбы. Прышлося на гэту работу наймаць аднаасобнікаў, якім плацілі натурай. І гэта ў той час, калі сіламі калгасьнікаў можна было з посьпехам выкапаць калгасную бульбу за 3—4 дні.

У выніку адсутнасьці працоўнай дысцыпліны калгасьнікі „Рухавіка Сацыялізму“ страцілі каля 200 пудоў аўса і больш 120 пудоў бульбы.



Рэзка бульбы на корм у калгасе „Новы шлях“

Мы правялі толькі калгас „Рухавік Сацыялізму“ для прыкладу. На справе-ж такіх калгасаў, у якіх адсутнічае працоўная дысцыпліна, шмат яшчэ.

Было-б проста бяссэнсіцай думаць, што працоўная дысцыпліна ў многіх калгасах слабая па нейкім асаблівым прычынам, якія заложаны ў самой прыродзе калектыўнай гаспадаркі. Калі панаваў прыгоньніцкі лад, тады дысцыпліна асноўвалася выключна на прымусу, тады, як выражаецца Народны Камісар Земляробства СССР тав. Якаўлеў,—была дысцыпліна палачная. За малейшую непаслухмянасьць гаспадару, з сялян спускалі скуру, білі, мучылі, пакідалі без яды на доўгі час. Пры капіталістычным ладзе існуе дысцыпліна голаду. Капіталісты нібыта абвясьцілі працу „свабоднай“, але арганізавалі справу так, што рабочы вымушан падпарадкавацца волі капіталіста, інакш ён (рабочы) можа памерці галоднай сьмерцяю.

Само сабой зразумела, што ў сацыялістычнай гаспадарцы ня можа быць ні прыгоньніцкай дысцыпліны—бізуна, ні капіталістычнай дысцыпліны—голаду. Мы павінны выхоўваць у калгасьнікаў дысцыпліну сацыялістычную, якая асноўваецца на сьвядомых адносінах да працы. Бо праца ў краіне Саветаў ператварылася з цяжкага брэмя ў справу чэсьці, у справу гонару, доблесьці і гэройства. У нас шырока разгарнуліся сацыялістычныя мэтады працы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

Мы маем мільёны адданейшых змагароў за сацыялізм, гэрояў сацыялістычнай працы. У кожным калгасе можна знайсьці не аднаго ўдарніка, што на справе паказалі ўзоры бальшавіцкай працы.

Але ці павінны мы абмежавацца толькі маральнымі мерамі ўзьдзейнічаньня, толькі выхаваньнем, для дасягненьня цьвёрдай працоўнай дысцыпліны ў калгасах?

Зразумела, што гэтым абмежавацца ні ў якім разе нельга. Зразумела, што да паасобных калгасьнікаў, злосна падрываючых працоўную дысцыпліну, неабходна прымаць рашучыя меры адміністрацыйнага ўзьдзейнічаньня. Бо вакол пытаньняў працоўнай дысцыпліны адбываецца жорсткая клясавая барацьба. Разгромленае, выбітае са сваіх вытворчых пазыцый, кулацтва, розныя былыя людзі, дваране, афіцэры царскай і белых армій, былыя ўдзельнікі контррэвалюцыйных банд, увесь гэты антысавецкі зброд рознымі спосабамі імкнецца разваліць калгасы. Лабавая атака супроць калектывізацыі ім не ўдалася, таму, яны зьмянілі тактыку, сталі дзейнічаць ціхай сапай, прытварыліся прыхільнікамі калгасаў, пралязаюць у калгасы з тым, каб разбурыць іх знутры.

Уся гэтая антысавецкая зграя добра разумее, што асновай пасьпяховай работы калектыўнай гаспадаркі—зьяўляецца моцная працоўная дысцыпліна. Таму ўсімі мерамі імкнецца падарваць гэтую аснову, унесьці дэзарганізацыю ў рады калгасьнікаў.

Спачатку клясавы вораг вёў барацьбу супроць увядзеньня працадня, але пацярпеўшы няўдачу,—стаў на шлях скарыстаньня працадня для таго, каб разваліць калгасы. У калгасе, напрыклад, імя Чарвякова, Пухавіцкага раёну, кулакі і падкулачнікі агітавалі: „хто ня хоча, можа і ня выходзіць на работу. Яго справа. Ня пойдзе на работу—не запішуць працадня“.

Зусім зразумела, што гэтай агітацыяй кулак імкнуўся сарваць сельска-гаспадарчыя работы ў калгасе. Трэба сказаць, што ў многіх калгасах, гэтая агітацыя мела посьпех. І вынікі такой работы клясавага ворага адразу далі сябе адчуць у калгасах. Гэта выявілася ў несваячасовым скончаньні ўборкі і абмалоту, што мы мелі ў значнай частцы калгасаў.

Трэба нанесьці руйнуючы і канчатковы ўдар усім, нават малейшым, спробам клясавага ворага ўнесьці дэзарганізацыю ў рады калгасаў. Шырэй разгарнуць масавую работу сярод калгасьнікаў, укараніць у работу калгасаў сацыялістычныя мэтады працы. Трэба згуртаваць актыў калгасу—лепшых ударнікаў калектыўнай працы і павесьці іх у бой з расхлябанасьцю, з недысцыплінаванасьцю, з разгільдзяйствам.

3-я сэсія ЦВК СССР, прыняла спэцыяльнае рашэньне аб барацьбе з падрыўшчыкамі працоўнай дысцыпліны ў калгасах. У статут сельска-гаспадарчай арцелі ўносіцца дадатковы пункт, які гавораць:

> **„У выпадку адмаўленьня члена калгасу па няўважлівых прычынах ад выкананьня даручанай яму калгасам работы, праўленьне калгасу абавязана аштрафаваць яго ў колькасьці да пяці працадзён, а ў выпадку паўторнага адмаўленьня—выключыць з калгасу“.**

Гэта пастанова якраз і б'е па тых элемэнтах, якія пралезьлі ў калгас з мэтай разбурыць яго знутры, б'е па ўсялякіх сымулянтах, гультаёх і хуліганах, якія ня хочуць працаваць, а імкнуцца жыць за кошт чужой працы, за кошт працы добрасумленных калгасьнікаў.

**Гультай у калгасе—вораг калектывізацыі**. Калгасьнікі з раёну дзейнасьці Безанчукскай МТС у сваім лісьце да тав. Сталіна пішуць: Нашым адзіным клопатам зьяўляецца тое, каб самім працаваць добрасумленна і сачыць, каб і другія сумленна працавалі“.

Гэта зусім правільна, бо гультаі і сымулянты часамі зводзяць на нішто амаль усю працу калгасьнікаў, зьніжаюць даходы калгасу і калгасьнікаў, абкрадваюць дзяржаву.

Наркомземляробства СССР тав. Якаўлеў у сваім дакладзе на 3-й сэсіі ЦВК СССР прывёў прыклад ганебнай работы калгасу „Отрада Кубанская“, Крапоткінскага раёну, Паўночнага Каўказу. У гэтым калгасе быў вельмі нізкі ўраджай. Праведзенае абсьледваньне ўскрыла прычыны гэтага. У калгасе ёсьць пяць паляводчых брыгад. І вось, у першай брыгадзе з 62-х калгасьнікаў на працягу ўсяго году зусім не працавала дзесяць чалавек, а 35—мелі сыстэматычныя прагулы. У трэцяй брыгадзе з 82-х калгасьнікаў зусім не працавала 22 чалавека, мелі сыстэматычныя прагулы 25. У чацьвертай брыгадзе з 87-мі калгасьнікаў зусім не працавалі 26, а 25 мелі сыстэматычныя прагулы. У пятай брыгадзе з 67-мі калгасьнікаў зусім не працавала 23 і 22 мелі сыстэматычныя прагулы.

Ну хіба-ж не зразумела, што ўвесь цяжар працы ў гэтым калгасе быў перакладзены на плечы добрасумленных калгасьнікаў, а дзесяткі гультаёў, нічога не рабіўшы, нанесьлі вялізарную шкоду калгасу.

Можна-б было прывесьці дзесяткі падобных прыкладаў з практыкі работы калгасаў нашай рэспублікі, з практыкі работы калгасаў амаль кожнага раёну. Важна тое, што частка перадавых, больш сьвядомых калгасьнікаў зразумела ўжо, якую вялікую шкоду прыносіць калгаснай справе адсутнасьць цьвёрдай працоўнай дысцыпліны. І некаторыя калгасы па-бальшавіцку ўзяліся за ачыстку ад розных дэзарганізатараў калгаснай вытворчасьці, гультаёў, сымулянтаў—падрыўшчыкаў дысцыпліны.

Перадавы калгас Віцебскага раёну—„Чырвоная армія“ выгнаў ужо з сваіх радоў гультаёў: Каланіцкага, Шэвелева і інш. Гэтаму прыкладу павінны пасьледваць усе астатнія калгасы, бо **гультай у калгасе—гэта вораг калектывізацыі.**

Словы настаўніка і правадыра працоўных т. Леніна **„Хто не працуе, той ня есьць“**—павінны стаць нашым штодзенным лёзунгам.

Неабходна памятаць, што жалезная працоўная дысцыпліна патрабуецца асабліва ў часе правядзеньня веснавой сяўбы, бо клясавы вораг намагае ўсе сілы, каб сарваць пляны сяўбы.

**Усе сілы на ўмацаваньне працоўнай дысцыпліны ў калгасах. Армія, штурмуючая астаткі капіталістычных элемэнтаў, ня церпіць расхлябанасьці і разгільдзяйства.**

**Л. Турэцкі.**



Кароўнік калгасу „Пралетары“ Вушацкага раёну

# Вучыцца ў перадавых

## Руйнуючы ўдар па кулаку, шкодніку і іх дапаможніках. За моцную працоўную дысцыпліну, за бальшавіцкае кіраўніцтва калгасамі!

## У ЧЫМ МОЦ КАЛГАСУ „ПАБЕДА“

(*Бярэзінскі раён*)

Калгас „Пабеда“ да 1-га студзеня скончыў разьмеркаваньне даходаў. Вынікі разьмеркаваньня аказаліся нечаканымі ня толькі для ваколічных аднаасобнікаў, але і для некаторых усё яшчэ да гэтага часу няўпэўненых калгасьнікаў.

Зробім некаторыя параўнаньні двух год. У 1931 г. на працадзень прыходзілася: жыта 2,5 фунта, у 1932 г. — 3 фунты, пшаніцы адпаведна 0,5 фунта і 1 фунт, ячменю—$^1/_2$ фунта і 1 фунт і г. д. У 1932 г. калгас амаль ня меў грашовых даходаў. У 1932 г. ён атрымаў чыстага даходу ад рэалізацыі гародніны, садавіны і іншых с.-г. прадуктаў, ня ўключаючы грошай ад продажу прадуктаў дзяржаве па загатоўках, 33 тыс. руб. Усе гэтыя грошы разьмеркаваны па працаднёх. Калгас на 4 тыс. руб. прадаў калгасьнікам дэфіцытных прамтавараў.

Вось калгасьнік **Дубовік Арцём.** У мінулым бядняк. Першым ўступіў у калгас. У яго аднаасобнай гаспадарцы да ўступленьня ў калгас было 1½ *га* зямлі, 1 карова. Едакоў — 7 душ. Атрымліваў ён даходу з гаспадаркі 10 пудоў жыта, 100 пудоў бульбы—вось у асноўным і ўсё.

— Ледзь хапала хлеба да каляд, — кажа ён,— а там бесьперапынныя пазыкі, і б'ешся, як рыба аб лёд, чакаючы новага ўраджаю, ад якога таксама пажывіцца нельга было.

Гэтае пакутнае жыцьцё канчаецца для Арцёма, калі ён уступае ў калгас. У 1931 г. ён выпрацаваў 700 працадзён — (у сям'і два працаздольных) і атрымаў 43,5 пудоў жыта, 8 пудоў пшаніцы, столькі-ж ячменю і інш. У 1932 г. ён атрымаў, выпрацаваўшы таксама 700 працадзён, 52 пуды жыта, 350 пудоў бульбы, 16 пудоў пшаніцы, столькі-ж ячменю, акрамя гэтага атрымаў мяса, мёду, 700 р. грашыма і на 70 руб. прамтавараў.

Калгасьнік **Тарасёнак Цімох,** чырвоны партызан. Два гады перад уступленьнем у калгас меў серадняцкую гаспадарку, прышоўшы туды прымакам. У гэтай гаспадарцы было 4 *га* зямлі, 1 конь, 2 каровы і на 6 душ сям'і ён атрымліваў з гэтай гаспадаркі 60 пудоў жыта, 10 — 12 пудоў пшаніцы і ячменю і 300 пудоў бульбы. У 1932 г. ён выпрацаваў 893 працадні (тры працаздольных) і атрымаў 66 пудоў жыта, 18 пудоў пшаніцы і столькі-ж ячменю, 450 пудоў бульбы, на 89 руб. прамтавараў і 893 руб. грашыма.

— І працуем лягчэй, і атрымліваем больш,—кажа Тарасёнак Цімох.—А была бяда, рады ня мог даць, жонка ўпіралася, не хацела ісьці ў калгас, а зараз першая ўдарніца. Сям'я цяпер здаволена, бо лепш жывецца, чым раней, і работа ў мяне цяпер па сіле—вартую калгаснае дабро.

Кулакі пасьмейваліся:

— Ударнікі на каго працуеце, прыдзе восень— есьці ня будзе чаго, усё дзяржава возьме.

— Да вас ня пойдзем, ня турбуйцеся, — давалі адпор калгасьнікі і датэрмінова канчалі ўборку ураджаю 1932 г.

У кастрычніку мінулага году, калі ўсе, як адзін сабраліся калгасьнікі на сход, старшыня калгасу т. **Корбут** узяў кавалак крэйды, падышоў да дошкі і сказаў:

— Папярэдня разьмяркуем ураджай бульбы, але як вы думаеце, з чаго пачнем?

— Ды вядома з чаго, — выступіў ударнік **Багамос Зьмітра Іванаў,** якому ўжо стукнула 50 год,— з выкананьня абавязкаў перад дзяржавай. Дзяржаве трэба ў першую чаргу, бо дзяржава—гэта мы, гэта рабочая кляса, гэта Чырвоная армія. — Правільна я кажу?—зьвярнуўся ён да калгасьнікаў.

— Правільна! Дзяржаве ў першую чаргу, — падцьвердзіў сход.

— Ды і мы ад сябе ў падарунак ленінградзкім пралетарам з атрыманай бульбы колькі-небудзь прыкінем,—працягваў Багамос Зьмітра.

— Згодны,—зноў пачуліся галасы.

Так разьмяркоўваўся ўвесь ураджай. Спачатку дзяржаве, потым на насеньне, а потым сабе—па працаднёх. У асноўным пляны загатовак былі выкананы да 15 гадавіны Кастрычніка за выключэньнем ільну, плян якога быў перавыканан 28 сьнежня.

Збожжа прадана дзяржаве па загатоўках замест 127 *цнт*—128, бульбы замест 72 *т* — 77 (у гым ліку 100 пудоў здалі асабіста калгасьнікі). Малочная фэрма прадала дзяржаве 1 *т* масла. Выконваючы абавязкі перад дзяржавай мацнее калгас.

— У першы год другой пяцігодкі, — кажуць калгасьнікі,—мы чысты ад усіх пазык.

І яны маюць рацыю. Калгас, пабудаваўшы кароўнік, пабудаваўшы на 85 *т* сіласную вежу, датэрмінова здаў усе грашовыя плацяжы да 1-га студзеня 1933 г. на суму 14.600 руб.

Калгас „Пабеда“ расьце. Пасеўная плошча ўвесну 1932 г. была пашырана на 160 *га*, і значна пашырана пад азімае жыта. Разам з пашырэньнем пасеўнай плошы ідзе барацьба за падвышэньне ураджайнасьці.

Палі абсяваюцца выключна радавымі сеялкамі. Калгасам узарана пад зяб 240 *га*. Па-ўдарнаму праходзіць падрыхтоўка да веснавой сяўбы. Поўнасьцю засыпаны страхавыя і запасныя фонды—з разьлікам пашырыць пасеўную плошчу на 120 *га*. Кончан рамонт калёс, збруі. Створан недатыканальны запас кармоў. Зьбіраецца попел.

Не па гладкай машчонай дарозе прыйшлі калгасьнікі да лепшага жыцьця. У пачатку 1931 г. у ліку 45 гаспадарак калгасу зайшлі сабе прытулак Дубовік і Шалай—браты, унукі, сыны, дзядзькі, пляменьнікі—цэлае гняздо з 14 гаспадарак—Дубавікоў і Шалаеў.

— Разбурым калгас,—шапталіся заможнікі і падкулачнікі і ўзяліся за сваю контр-рэвалюцыйную справу.

Гэтыя кулакі, пралезшы ў калгас і скарыстаўшы клясавую сьлепату некаторых раённых работнікаў, дайшлі да такой нахабнасьці, што дабіліся выключэньня з калгасу яго арганізатара, чырвонага партызана **Дубавіка Якіма**, а потым узяліся за цяперашняга старшыню калгасу, лепшага калгаснага работніка тав. Корбута, які з 1928 г. прымае самы актыўны ўдзел у калгасным руху і ўзяліся вельмі хітра.

— Даёш нам пралетарскае кіраўніцтва, даёш нам старшынёй батрака Голуба Янку.

Зразумела, хто тут пасьля гэтага будзе пярэчыць. Людзі стаяць за калгасы, за пралетарскае кіраўніцтва.

Але асноўная маса сапраўдных калгасьнікаў пачала пярэчыць, выкрыла Дубовікаў і Шалаеў—заможнікаў і падкулачнікаў, даказала хлусьлівасьць заявы на тав. Корбута і іх жаданьне разбурыць калгас; паказалі сапраўдны твар кулацкага перараджэнца былога батрака Голуба Янку.

Голуб Янка ў самую гарачую пару, калі лепшыя калгасьнікі па-ўдарнаму праводзілі ўборку,—акідаў работу і швэндаўся па кустох, шукаючы цяньку. Голуб Янка кожны дзень піў запоем і сваімі дэбошамі дапамагаў кулакам уносіць дэзарганізацыю ў работу калгасу. Голуба Янку, як кулацкага перараджэнца, камсамольская ячэйка вычысьціла з сваіх радоў, а калгасьнікі выгналі з калгасу.

Клясавы вораг атрымаў рашучы адпор.

Сакрэт перамогі калгасу „Пабеда"—у выкананьні 6 умоў тав. Сталіна, у зьнішчэньні абязьлічкі, ураўнілаўкі. У калгасе працуе пяць сталых палявых брыгад, якія па сумяшчальнасьці выконваюць і іншыя работы.

Калгас умела наладзіў дысцыпліну працы. Вось некалькі характэрных прыкладаў. 25-га сьнежня мінулага году брыгадзе № 2 было даручана перанесьці салому ў пуню. Брыгада ўнесла 150 пудоў, астатняе засталося пад адкрытым небам. Праўленьне зараз-жа накіравала для скканчэньня работы пятую брыгаду, залічыла ёй усе працадні за пераноску саломы. Падобных выпадкаў зацяжкі работы пасьля гэтага ў брыгадзе № 2 ня было.

Растлумачальна-выхаваўчая работа ў калгасе спалучаецца з эканамічнай узьдзейнасьцю. Вось чаму прагул у калгасе „Пабеда"—рэдкае зьявішча, вось чаму на пытаньне:

— Колькі ў калгасе ўдарнікаў?

— Тав. Корбут адкажа:

— Два гады таму назад я-бы вам па пальцах пералічыў іх. А цяпер... Доўга лічыць. Запытайцеся лепш пра гультаёў і я вам адразу ўкажу іх. У нас яны рэдкія экзэмпляры.

Мацнее працоўная дысцыпліна, растуць рады ўдарнікаў, мацнее і расьце калгас. Адначасова перараджаецца псыхалёгія былога аднаасобніка, цяперашняга калгасьніка. Хіба аб гэтым не гаворыць красамоўна хаця-бы такі факт. Увосень мінулага году праўленьне паставіла пытаньне аб падрыхтоўцы плошчы для пасадкі саду. Горача выступілі калгасьнікі з такімі прамовамі:

— Трэба эканоміць працадні, трэба праўленьню так паставіць работу, каб больш заставалася ў калгасе, бо гэта наша гаспадарка.

І пастанавілі ня ўлічваць працадні за апрацоўку плошчы сада. За два выходныя дні кожны калгасьнік выкапаў 8 ям, кожная калгасьніца — 6, а ўсяго было падрыхтавана 8 *га* пад сад для 1.000 дрэў.

**М. Сакалоўскі.**


Герасімовіч Галена—ударніца калгасу імя Дзяржынскага (Менскі раён)

# Вось як трэба змагацца з кулаком

*(Менскі раён)*

1930 год зьяўляецца гістарычным годам для вёскі Малая Сьляпянка, годам перабудовы гэтай вёскі на сацыялістычны лад. 16 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак гэтай вёскі арганізавалася ў калгас імя Фэлікса Дзяржынскага.

Кулаччо ўбачыла, што прышоў час разьліку з імі за вечную кабалу, пот, мазалі і кроў, якую яны смакталі з батракоў і бедняты. Кулаччо ўбачыла, што арганізацыя калгасу нясе ім нямінучую пагібель. Таму, арганізацыю калгасу імя Дзяржынскага кулаччо сустрэла ў штыкі.

Сваю контр-рэвалюцыйную работу кулакі разгарнулі ў асаблівасьці сярод жанчын, запужваючы іх рознымі жудасьцямі, падбухторваючы іх выступаць супроць калектывізацыі. Супроць арганізатараў калгасу кулацтвам было арганізавана шалёнае цкаваньне.

Але гэтая агідная работа кулака не магла стрымаць магутнай хвалі калектывізацыі. Калгас рос і зараз аб'ядвае 70 гаспадарак, з іх батракоў 2, беднякоў 16 і серадняков 52.

Першы год работы ў калгасе даў аплату працадня калгасьніка ў пераводзе на грошы прадукцыі па цьвёрдых цэнах разам з грашовай часткай—2 рублі.

Калгас умацоўваўся. Кулак мяняе свае формы і мэтады барацьбы з калгасам. У калгас пралазіць кулак Семашка Рыгор Сяргееў, які прыкінуўся „мілым" чалавекам, „актывістам", кулак Стрыга Янка — кулак, белагвардзеец, контрабандыст Жыдовіч. Група гэтых кулакоў хаваецца

ад індывідуальнага абкладаньня падаткам і раскулачваньня, пад шыльдай калгасьнікаў праводзяць скрытую супроцькалгасную работу, арганізуюць шкодніцтва, падрыхтоўваюць развал калгасу знутры.

Група паказаных кулакоў разам з кулаком спэкулянтам белагвардзейцам-махноўцам Савасьц'янавым улетку 1931 году ў гарачую пару ўборкі ўраджаю ноччу арганізуюць падпал калгасу. Пажар быў хутка ліквідаваны. Тады праз тыдзень ноччу падпал калгасу паўтараецца і гэты пажар быў хутка ліквідаваны. Ноччу калгас паставіў узмоцненую варту. Тады кулакі і белагвардзейцы яшчэ больш абнаглелі ў сваёй дзейнасьці і падпальваюць калгас днём. Гэтая работа разьюшанага абнаглелага кулацтва была выкрыта і яны атрымалі па заслугам.

Набыўшы некаторы вопыт у арганізацыі калгаснай вытворчасьці ў 1931 годзе, калгас імя Дзяржынскага пакончыў з падзёншчынай, арганізаваў работу зьдзельна. Гэта дало свае станоўчыя вынікі. На працадзень калгасьніка пры размеркаваньні ўраджаю прыпала жыта 400 *гр*, ячменю 500 *гр*, бульбы 5 *кг* і грошай—2 рублі.

Надзвычай бліскучыя вынікі даў 1932 год. У гэтым годзе ўжо былі створаны сталыя вытворчыя брыгады, дабіта была абязьлічка і безадказнасьць за даручаную работу. На ўсіх вучастках калгаснай работы шырока было разгорнута сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва. У гэтым годзе на працадзень пры размеркаваньні ўраджаю і прыбыткаў прыпадае: жыта 700 *гр*, ячменю 650 *гр*, гароху 65 *гр*, бульбы 5 *кг*. караньплодаў 2 *кг*, саломы 1 *кг* і грошай 6 р.

Укараняючы паказаньні агратэхнікі, правёўшы раньні пасеў сартавым насеньнем, палепшыўшы якасьць апрацоўкі глебы, — калгас дасягнуў наступнага ўраджаю з аднаго *га*: — жыта 9 *цнт*, ячменю 16,12 *цнт*, авёс прапаў—толькі 5,5 *цнт*, гарох 10,6 *цнт*, бульба 130,5 *цнт*, буракі сталовыя 167,5 *цнт*, морква 127,2 *цнт*, капуста раньняя 203,2 *цнт*, капуста позьняя 164,71 *цнт*, памідоры 38,88 *цнт*, гуркі 238,47 *цнт*, цыбуля 34 *цнт*, бручка 183 *цнт*, буракі кармовыя 250 *цнт*, сена лугавое 28,6 *цнт*.



Брыгадзір калгасу імя Дзяржынскага Шабуневіч Паўла дае нарад ударніцы Трушкевіч Соні, тав. Шабуневіч прыміяван 150 рублямі за ўдарную працу.

Удой малака за год у сярэднім ад адной каровы 1392 літры, а ў 1931 годзе быў 1300 літраў.

Калгас поўнасьцю і датэрмінова выканаў свае абавязкі перад пралетарскай дзяржавай па здачы (продажу) сваёй таварнай прадукцыі. Выканаўшы свае абавязкі праз наладжаныя ім выязды на калгасны рынак рэалізаваў наступную сваю сельска-гаспадарчую прадукцыю: бульбы 624 *цнт*, капусты 2114 *цнт*, гуркоў 2464 *цнт*, буракоў сталовых 666 *цнт*, бручкі 186 *цнт*, морквы 435 *цнт*, памідораў 87 *цнт*, малака 6938 літраў, мяса ялавічыны 3,6 *цнт*, мяса сьвініны 1 *цнт*, а ўсяго на суму 184 тысячы 808 рублёў.

Зусім за кароткі час зьмяніўся твар вёскі Малая Сьляпянка. Яна стала непазнаваемай, вырасьлі новыя будынкі. Калгасам пабудаван кароўнік з кухняй, жылым будынкам, студняй і каменна-бетонным карняплодахавальнікам каштоўнасьцю ў 25 тысяч рублёў. Пабудавана канюшня з вялікім паднавесам для калёс, сельгасінвэнтару і машын каштоўнасьцю ў 15 тыс. рублёў. Пабудаваны і абсталяваны дзіцячыя яслі і пляцоўка каштоўнасьцю ў 10 тыс руб. Пабудавана вялікая з двумя горнамі кавальская і стальмашная майстэрня каштоўнасьцю ў 5 тысяч рублёў. Пабудавана і радыфікавана хата-чытальня.

За гэты час калгас набыў шмат сельска-гаспадарчых машын і інвэнтару. За увесь час калгас меў дзяржаўнага крэдыту 8 тыс. 311 рублёў, з якога датэрмінова пагашана 3738 руб. І зараз разьлічыўшыся з усімі даўгамі і з калгасьнікамі па працаднёх калгас мае на бягучым рахунку ў Дзяржбанку 16 тыс. 21 руб. Апрача таго калгасу павінны розныя арганізацыі і ўстановы 13 тыс. 168 рублёў.

Ужо зараз аб перавазе калектыўнай гаспадаркі над дробнасялянскай аднаасобнай гаспадаркай гаворыць і агітуе само жыцьцё, перавага калгасу відавочна.

Зараз калгасьнік, як заявілі ў сваім лісьце калгасьнікі „жыве такім жыцьцём, пра якое да калгасу ён і сьніць ня сьніў і думаць ня думаў. Толькі працуй сам добрасумленна і дабівайся, каб усе іншыя добрасумленна працавалі". Возьмем к прыкладу сярэднюю сям'ю калгасьніка Трушкевіча Міхася Міхасёвага 6 чалавек, з якіх 4 непрацаздольных дзяцей. Сам з жонкай Трушкевіч Міхась за год выпрацаваў 545 працадзён і за сваю працу атрымаў жыта 373 *кг*, ячменю 354 *кг*, гароху 35 *кг*, бульбы 2.725 *кг*, саломы 525 *кг*, караньплодаў 1090 *кг*, і наяўнымі грашмі 3 тысячы 269 рублёў. Раней на аднаасобнай гаспадарцы гэтая сям'я заўсёды была паўгалоднай.

У калгасе імя Дзяржынскага ёсьць і такія калгасьнікі як Трушкевіч Ільлюк Хведараў—9 чалавек сям'і з іх працаздольных 3 мужчыны і адна жанчына, непрацаздольных 5. За год гэта сям'я выпрацавала 1299 працадзён і атрымала: жыта 909 *кг*, ячменю 845 *кг*, гароху 84 *кг*, бульбы 6495 *кг*, караньплодаў 2598 *кг*, саломы 1299 *кг* і грошай 7 тысяч 784 рублі. А такіх сем'яў у калгасе імя Дзяржынскага шмат. Гэта прыбытак толькі ад абагуленай часткі. У кожнага-ж калгасьніка ёсьць сядзіба, карова, сьвіньні, авечкі і птушка. Калгасьнікі пачынаюць разводзіць і трусоў і сапраўдны прыбытак кожнай сям'і калгасьніка значна вышэйшы.

Праз увесь час палявых работ ад раньняй вясны і да позьняй восені ў калгасе працуюць дзіцячыя яслі і пляцоўка ў пабудаваным калгасам сьветлым утульным будынку, што дае магчымасьць максымальна выкарыстаць жанчын з малымі дзецьмі на калгаснай рабоце. Ды і ў саміх калгасьніц зацікаўленасьць да работы вялікая.

Дасягненьні калгасу імя Дзяржынскага гэта вынік няўхільнага ажыцьцяўленьня генэральнай лініі камуністычнае партыі на індустрыялізацыю краіны, на

калектывізацыю сельскай гаспадаркі. Гэта вынік таго, што партыйная ячэйка калгасу зьяўляецца арганізатарам і кіраўніком калгаснай вытворчасьці.

Зараз ужо „разгромлена кулацтва, падарваны карэньні капіталізму ў сельскай гаспадарцы і тым самым забясьпечана перамога сацыялізму ў вёсцы,



Крышчановіч Андрэй—ударнік стэльмах калгасу імя Дзяржынскага (Менскі раён)

а калгасная гаспадарка ператварылася ў моцную апору сацыялістычнага будаўніцтва“. Але трэба памятаць, што „вораг зразумеў абстаноўку, якая зьмянілася, зразумеў сілу і магутнасьць калгаснага ладу ў вёсцы і зразумеўшы гэта, перабудаваўся, зьмяніў сваю тактыку,—перайшоў ад простай атакі супроць калгасаў да работы ціхай сапай“ (І. Сталін, „Аб рабоце ў вёсцы“).

У калгас імя Дзяржынскага пралазіць кулак Качарэўскі Вінцэсь з Сёмка-Гарадзецкага сельсавету. Прыстроіўся ён у калгасе кавалём, на погляд такі „мілы“, „сьвяты“ чалавек, здаецца.

Гэта „мілы“, „сьвяты“ чалавек з пралезшымі ў калгас кулакамі Трушкевічам Віктарам Усьцінавым—былы агент польскай дэфэнзывы, з кулаком лютым эксплёататарам Маркоўскім Васілем Ігнатавым і кулачкай Семашка Фядорай Вінцэсявай ціхай сапай праводзілі сваю падрыўную работу, арганізавалі шкодніцкую работу. Кулак Качарэўскі, добра разумеючы ролю каня ў калгаснай вытворчасьці, таму, пры коўцы сыстэматычна іх закоўбаў, выводзіў са строю цягавую сілу калгасу.

Група гэтых кулакоў распачала сваю атаку на скомпрамэтаваньне калгаснага актыву. Распаўсюджваліся розныя плёткі і хлусьня пра перадавых калгасьнікаў-актывістаў. Гэтую работу кулакі праводзілі пры дапамозе і ўзначальваньні яе настаўнікам Гайкай.

Шкодная дзейнасьць паказаных кулакоў выкрыта, яны вычышчаны з калгасу. Павінны быць выкінуты з радоў чырвонасьцяжнага настаўніцтва і кулацкія дапаможнікі-настаўнікі Гайкі.

Калгас імя Дзяржынскага, ачышчаючыся ад кулакоў, спэкулянтаў, белагвардзейцаў і іншага атрэп‘я былых людзей „пад непасрэдным кіраўніцтвам партыйнай ячэйкі быў і будзе бальшавіцкім“ (з ліста калгасьнікаў). Калгас заваяваў месца на ўсесаюзны зьлёт калгасьнікаў-ударнікаў лепшых калгасаў.

Усесаюзны зьлёт калгасьнікаў-ударнікаў калгасьнікі калгасу імя Дзяржынскага сустрэлі баявой падрыхтоўкай да бальшавіцкай сяўбы першага году другой пяцігодкі. Пастанова партыі і ўраду аб абавязковай пастаўцы збожжа дзяржаве і пастанова аб цьвёрдых нормах здачы збожжа яшчэ больш павысіла зацікаўленасьць кожнага калгасьніка ў калгаснай вытворчасьці, дапамагае калгасу яшчэ лепш падрыхтавацца да сяўбы. Насеньне поўнасьцю засыпана і адсартавана. Коні ў добрым выглядзе і на час палявых работ для іх захаван браніявана-фуражны фонд.

Калгасьнікі калгасу імя Дзяржынскага ставяць сваей задачай атрымаць у гэтым годзе наступны ўраджай з аднаго *га*: жыта ня менш 12 *цнт*, аўса 11,5 *цнт*, ячменю 17 *цнт*, пшаніцы яравой 10,5 *цнт*, гароху 12 *цнт*, бульбы 150 *цнт*, кармавых караньплодаў 250 *цнт*, капусты раньняй 210 *цнт*, капусты позьняй 230 *цнт*, буракоў сталовых 170 *цнт*, морквы 150 *цнт*, бручкі 220 *цнт*, агуркоў 250 *цнт*. Для забесьпячэньня гэтага ўраджаю калгас праводзіць наступныя мерапрыемствы: уся глеба паднята пад зяб, ужо вывезена 4 тыс. вазоў гною, альбо прыкладна 2 тыс. *т*. Сабрана 250 пудоў попелу, устанаўліваецца правільны севазварот, будзе праводзіцца раньняя сяўба чыста гатунковым насеньнем, радковай сеялкай, калгасьнікі паставілі сваёй задачай ужываць усе паказаньні агратэхнікі.

**В. Фесько.**

## Бліскучыя вынікі калгасу „Чырвоны Пуцілавец“

(*Заслаўскі раён*)

У выніку ўдарнай работы калгасьнікаў і добрага кіраўніцтва праўленьня на чале са старшынёй т. Лаўцом—членам партыі, калгас „Чырвоны Пуцілавец“ вышаў у першыя рады лепшых калгасаў Заслаўшчыны. Лічбы ітогаў 1932 г.—лепшы доказ бальшавіцкай работы. Вось некаторыя з гэтых лічбаў:

Валавы даход калгасу (калгас аб‘ядноае 68 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак) дасягнуў у 1932 г. 97 тыс. 344 руб., а гадавы грашовы зварот перавысіў 65 тыс. руб. Дасягнуты зрухі і ў галіне павышэньня ўраджайнасьці: жыта сабрана 8,6 *цнт* з *га*, ячменю—8 *цнт*, бульбы—100 *цнт* і г. д.

Калгас акуратна выконвае свае абавязкі перад дзяржавай. Пляны загатовак датэрмінова перавы-

каныны, а па асобных відах гэтае перавыкананьне складае досыць значныя лічбы. Напрыклад, па ільнавалакну плян быў 16,8 *цнт*, а здана звыш 20 *цнт*, плян бульбазагатовак перавыканан на 5 *цнт*. Па здачы (продажу) гародніны калгас атрымаў заданьне на 10 *цнт* капусты, а здаў 26,7 *цнт*, гуркоў здаў 24,4 *цнт*, морквы—16 *цнт*. Гэтак сама звыш пляну здаў калгас 69 *цнт* саломы і перавыканаў на 5 *цнт* плян здачы сена.

Выканаўшы плян загатовак калгас зараз-жа ўзяўся за засыпку насенных і страхавых фондаў. Плян выкананы цалкам, усё сабранае насеньне ачышчана і адсартавана. На 5 лютага ў калгасе цалкам быў акончаны рамонт сельска-гаспадарчага інвэнтару, створаны патрэбныя кармавыя фонды, прыведзены ў парадак калёсы, вупраж, падрыхтаваны вяроўкі, мяхі... Збор попелу ў калгасе праводзіцца сыстэматычна на працягу ўсяго году: раз у два тыдні знаражаецца спэцыяльная фурманка, з якой аб'яжджаюць усе калгасныя двары з мэтай збору попелу. Сабраны попел захоўваецца ў сухім месцы і зусім прыгодны, каб уносіць яго ў якасьці ўгнаеньня ў глебу.

На працягу 1932 г. „Чырвоны Пуцілавец“ шырока разгарнуў калгасны гандаль: на калгасным базары прадавалі бульбу, мяса і гародніну. Гэтыя прадукты калгас прадаваў і розным арганізацыям у парадку дэцэнтралізаваных загатовак (Сельспажыўтаварыству) і інш. Даход ад калгаснага гандлю даў калгасу 48 тыс. руб. Гэтыя грошы дапамаглі калгасу датэрмінова і цалкам выканаць абавязковыя плацяжы (сельгаспадатак, страхоўка і інш.), плацяжы па крэдытах. 3 мільёны 11 тыс. 340 руб. (агульная сума атрыманых на разьвіцьцё гаспадаркі крэдытаў) на працягу 1932 г. пагашана звыш 7 тыс. руб., прычым цалкам выплачаны ўсе плацяжы па крэдытах за 1933 г. і часткова нават за 1934 г.

Выканаўшы абавязкі перад дзяржавай і забясьпечыўшы сябе насеньнем і кармамі, у „Чырвоным Пуцілаўцы“ прыступілі да разьмеркаваньня ўраджаю.

Вынікі разьмеркаваньня ўраджаю і даходаў калгасу паказалі, што калгасьнікі атрымалі значна больш таго, што яны атрымлівалі, калі былі аднаасобнымі гаспадарамі. У грашовым пераводзе, узятым на падставе цьвёрдых дзяржаўных цэн, працадзень калгасьніка ацэньваецца ў 1 р. 40 к. У пераводзе-ж на сельска-гаспадарчыя прадукты за кожны працадзень калгасьнік „Чырвонага Пуцілаўца“ атрымаў: жыта 1,6 *кг*, ячменю—420 *гр*, бульбы—6 *кг*, пшаніцы—80 *гр*, бобу—56 *гр*, гароху—32 *гр*, лёнавалакна—21 *гр*, сена—720 *гр*, саломы—1,2 *кг* і грашыма 70 кап.

Вось вытрымкі з ведамасьці разьмеркаваньня ўраджаю гэтага калгасу: сям'я калгасьніцы **Аршулі Кухарскай**, складаецца з 5 працаздольных і 3 непрацаздольных. За 1165 працадзён гэтая сям'я атрымала: жыта—18,6 *цнт*, ячменю—1,9 *цнт*, бульбы—69,6 *цнт*, пшаніцы—93,2 *кг*, бобу—61 *кг*, гароху—17,3 *кг*, лёнавалакна—24,5 *кг*, сена—8,4 *цнт*, саломы—13,9 *цнт* і грашыма 815 руб. 50 кап.

Калгасьнік **Рыгор Гладкі**, які мае сям'ю з 2 працаздольных і 3 непрацаздольных душ за 589 працадзён атрымаў: 9,4 *цнт* жыта, 2,5 *цнт* ячменю, 35,4 *цнт* бульбы, 47,1 *кг* пшаніцы і г. д. адпаведна колькасьці прадуктаў, што прыпадае на 1 працадзень. Грашыма гэтая сям'я атрымала 412 р. 30 к.

Калгасьнікам **Антосем Мілановічам**, выпрацаваўшым з сям'ёй, якая складаецца з 3 працаздольных і 2 непрацаздольных душ, 748 працадзён—атрымана: жыта—12 *цнт*, ячменю—3,1 *цнт*, пшаніцы—60 *кг*, бульбы—44,9 *цнт* і г. д. і грашыма 523 р. 60 кап. Гэтыя калгасьнікі не зьяўляюцца выключэньнем, але ўзяты на ўдачу.

На працягу 1932 г. калгас аказваў гаспадарчую дапамогу сваім суседзям. Увесну, напрыклад, „Чырвоны Пуцілавец“ пазычыў на насеньне суседнім калгасам (імя Розы Люксэмбург, „Чырвонаму калгасьніку“ і інш.) звыш 18 тон бульбы, каля 4 тон аўса, дапамагаў кармамі (калгасу „Камінтэрн“ адпушчана звыш 4 тон саломы, саўгасу „Беларусь“—6 тон і г. д.).

„Чырвоны Пуцілавец“ мае малочна-таварны і адначасова жывёлагадоўчы (з ухілам у бок конягадоўлі) напрамак разьвіцьця гаспадаркі. Зараз калгас налічвае ў сваіх стайнях і аборах 125 галоў буйнай рагатай жывёлы, з якіх 89 галоў маладняку (апрача прыросту ў зіму 1932-33 году), 79 коняй (у тым ліку 24 галавы маладняку). Ёсьць і авечкі—66 штук, апрача маладняку.

Даглядаецца жывёла добра. Пакуль што новых памяшканьняў для жывёлы не пабудавана (абора на 100 галоў яшчэ ня скончана будаўніцтвам), але старыя памяшканьні знаходзяцца ў парадку. Часова жывёла зьмяшчаецца ў абагуленых гумнах і больш буйных хлявох. Гумны і хлявы ацеплены: абстаўлены саломай, а зьверху абшыты дошкамі. У памяшканьнях для жывёлы заўсёды суха, бо подсьціл даецца ў дастатковай колькасьці. Для эканоміі падсьцілу калгасьнікі скарыстоўваюць яловыя лапкі, якія сякуць у балоце. Гэтае балота калгас мае намер асушыць і распахаць. У доглядзе за жывёлай цалкам ліквідавана абязьлічка: кожны калгасьнік, або калгасьніца, што працуюць па скотным двары, маюць прымацаваных да сябе кароў, або цялят, ці сьвіней, за стан якіх адказваюць перад праўленьнем. Гэтае-ж можна сказаць і ў адносінах да коняй і вупражы.

Падсобнай галінай гаспадаркі калгасу ў яго далейшым разьвіцьці будзе садоўніцтва. Калгас ужо засадзіў 8 *га* саду і падрыхтаваў пад пасадку гэткую-ж плошчу. Разьвіцьцю гэтай галіны гаспадаркі будзе спрыяць блізкая адлегласьць ад чыгункі (4 кілёматры), што дасьць магчымасьць хутчэйшага збыту прадукцыі. Мяркуецца таксама ў якасьці падсобных галін разьвіць пчалярства і птушніцтва.

Вынікі работы калгасу за 1932 год і пэрспэктывы яго далейшага разьвіцьця стымулююць яго пашырэньне за лік бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. За студзень месяц калгас атрымаў 15 заяў ад беднаты і серадняцкоў з просьбай аб прыняцьці іх у калгас.

Адсталым вучасткам у калгасе „Чырвоны Пуцілавец“ зьяўляецца масавая і культурная работа сярод калгасьнікаў. Значна тармозіць разьвіцьцё і арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасу дрэннае плянаваньне: на 1933 г. калгас ужо атрымаў з Райза тры розныя варыянты пляну засеву, што ў сваю чаргу выклікала адпаведныя зьмены ў запасах насеньня. Да гэтага часу калгас ня мае цьвёрдага севазвароту, няма ўнутры-калгаснага разьмежаваньня палёў. Усё гэта ўносіць значныя перашкоды ў барацьбе за далейшае павышэньне ўраджайнасьці.

**М. Пакроўскі.**

# ПЕРШАМАЙЦЫ ЎДАРНА РЫХТУЮЦЦА ДА СЯЎБЫ

*(Слуцкі раён)*

Калгас „1-е мая“, які зьяўляецца сапраўдным прыкладным бальшавіцкім калгасам у раёне ў падрыхтоўцы да веснавой сяўбы. У калгасе складзен дакладны плян усёй падрыхтоўчай работы, вызначаны тэрміны для кожнай работы і вылучаны людзі, якія адказваюць за яе. На кожным пасяджэньні праўленьня і штодзенна самім старшынёй калгасу тав. Казлом Васілём робіцца праверка выкананьня кожнай работы.

Калгас, поўнасьцю і датэрмінова выканаўшы ўсе віды дзяржаўных загатовак, цалкам засыпаў насенныя і страхавыя фонды ў разьмерах, якія забясьпечваюць пасеўныя плошчы бульбе—7.000 пудоў, аўсу—6.000 пудоў, ячменю—300 пуд. і інш.

Насеньне поўнасьцю ачышчана, захоўваецца ў добрых сьвірнах. Вылучаны начныя вартаўнікі, якія ахоўваюць уначы сьвірны. За хаваньне і ахову насеньня ўскладзена пэрсанальная адказнасьць на члена праўленьня Войціка Якуба. Бульбу ўжо некалькі раз правяралі—яна знаходзіцца ў добрым становішчы.

Плугі ў ліку 32 штук і два трохлямешныя ўжо адрамантаваны. Бароны 25 камплектаў адрамантаваны таксама. Калгас набыў новых 15 пар дуг, 2 вялікія вяроўкі і пастронкі. Вупраж адрамантавана.

Кожная брыгада склала плян падрыхтоўчай работы да сяўбы. Вызначаны тэрміны і адказныя людзі, за асобныя вучасткі падрыхтоўкі. Паляводчыя брыгады заключылі дагавары сацспаборніцтва на лепшую падрыхтоўку і правядзеньня сяўбы. Брыгадзірамі вылучаны з саміх лепшых правераных калгасьнікаў-ударнікаў. **Якімовіч Тарас, Грабштэйн Давід, Бараноўскі, Рубінштэйн Нэлах і Верабей** працуюць не пакладаючы рук, працуюць сапраўды па-ўдарнаму.

Яшчэ з восені 1932 г. калгасьнікі змагаюцца за павышэньне ўраджайнасьці, як за вырашэньне галоўнай задачы у сельскай гаспадарцы. У мэтах падняцьця ўраджайнасьці калгас яшчэ ўвосень вывез гной на 12 *га* і заараў яго. Зараз ва ўсю шырыню разгорнута вывазка гною. Штодзенна працуе 50—60 пар коняй па вывазцы. Ужо вывезена 5.000 вазоў. Насеньне цалкам ачышчана. Наладжан збор попелу, ужо сабрана каля 500 пудоў. Недахопам у падняцьці ўраджайнасьці зьяўляецца тое, што не працуюць гурткі па аўладаньні агратэхнікі.

Баявая падрыхтоўка калгасу да сяўбы выклікала вялікі прыліў аднаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгас. За апошні час прынята 55 гаспадарак. Калгас, разам з прыёмам новых бядняцка-серадняцкіх гаспадарак вядзе самаачыстку ад засьмечанасьці замаскаваных варожых нам людзей, якія пралезьлі ў калгас.

Калгас „1-е мая“ трэба лічыць прыкладным бальшавіцкім калгасам. Гэта дасягнута правільным апарацыйным кіраўніцтвам з боку праўленьня калгасу на чале з тав. **Казлом** Васілём, разам з партыйнай ячэйкай і актывам калгасьнікаў. Мабілізацыя актыву і бязьлітасная барацьба з клясавым ворагам забясьпечваюць посьпех. Першую бальшавіцкую вясну другой пяцігодкі калгас „1-е мая“ сустракае ў баявой гатоўнасьці.

**Я. Кучур.**

# Усебеларускі сьпіс гонару

## Заносім у сьпіс лепшых змагароў за сацыялістычны ўраджай

*(Працяг гл. № 4)*

38) **Калгас „Заветы Леніна“**, Полацкага раёну атрымаў ураджаю ў 1932 годзе: жыта—19 *цнт* з *га*, ячменю—15,5 *цнт*, аўсу—12,5 *цнт*, бабовых—12,5 *цнт*, бульбы—154 *цнт*, капусты—280 *цнт*, буракоў—300 цэнтнэраў з *га*.

Гэтых дасягненьняў калгас дабіўся дзякуючы няўстаннай штодзеннай барацьбе за сацыялістычны ўраджай. Правільная апрацоўка глебы, выкарыстаньне ўсіх відаў угнаеньня, раньнія тэрміны сяўбы, сацыялістычныя адносіны калгасьнікаў да працы,—вось тыя шляхі, па якіх калгас „Заветы Леніна“ дасягнуў такога высокага ўраджаю.

39) **Калгас „10-годзьдзе Кастрычніка“**, Тураўскага раёну, значна павысіў ураджайнасьць сваіх палёў. У 1931 г. атрымаў з гектара: жыта—9 *цнт*, ячменю—12 *цнт* і проса—15 *цнт*. А ў 1932 годзе ўраджай ужо быў наступны: жыта—10,2 *цнт*, ячменю—16 *цнт* і проса—18 *цнт* з *га*.

Дзякуючы добраякаснай апрацоўцы глебы, ворыва на зяб і правільнаму ўнясеньню ўгнаеньняў—калгас дабіўся гэтых дасягненьняў па павышэньні ўраджайнасьці.

40) **Калгас „Ударнік 2-й бальшавіцкай вясны“**, Лельчыцкага раёну, зьняў у 1932 годзе з гектара: ячменю—16,8 *цнт*, пшаніцы—12,3 *цнт*. У 1931 годзе ўраджайнасьць гэтых культур была значна ніжэй.

Павышэньня ўраджайнасьці па ячменю і пшаніцы „Ударнік“ дабіўся дзякуючы высокаякаснай апрацоўцы глебы і раньняму пасеву.

41) **Калгас „Чырвоная Дуброўна“**, Полацкага раёну дабіўся ў 1932 г. звачнага павышэньня ўраджайнасьці на сваіх палёх. Калгас атрымаў з гектара: жыта—13 *цнт*, ячменю—8 *цнт*, бульбы—120,5 *цнт*. А ў 1929—31 г.г. сярэдні ўраджай быў: жыта—9 *цнт*, ячменю—6 *цнт*, бульбы—110 *цнт*.

„Чырвоная Дуброўна“ дабілася павышэньня ўраджайнасьці шляхам добраякаснай апрацоўкі глебы, выкарыстаньня на ўгнаеньне ўсіх гарадзкіх адкідаў і адданасьці калгасьнікаў калгаснай вытворчасьці.

42) **Калгас „Кім“**, Чырвона-Слабодзкага раёну, значна павысіў ураджайнасьць па жыту і ячменю. Так, у 1931 годзе ўраджай жыта быў 7 *цнт* з *га*, а ў 1932 г.—жыта 8 *цнт* і ячменю—9,5 *цнт*.

Прымяненьне раду агратэхнічных мерапрыемстваў і сацыялістычныя адносіны калгасьнікаў да працы забясьпечылі посьпех у барацьбе за ўраджай калгасу „КІМ“.

**„Мы дабіліся таго, што ўзьнялі, дзякуючы калгасам, беднякоў да ўзроўню серадиякоў. Гэта вельмі добра. Але гэтага мала.**

**Мы павінны цяпер дабіцца таго, каб зрабіць яшчэ адзін крок наперад і дапамагчы ўсім калгасьнікам і былым беднякам, і былым серадиякам, падняцца да ўзроўню заможных. Гэтага можна дабіцца, гэтага мы павінны дабіцца ва што-б там ні стала“. (СТАЛІН).**

# ПРАВІЛЬНА АЦАНІЦЬ ПРАЦАДЗЕНЬ КАЛГАСЬНІКА

## Аб ацэнцы ў працаднёх розных сельска-гаспадарчых работ у калгасах

### Пастанова Народнага Камісарыяту Землеробства Саюзу ССР

1. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР у пастанове ад 30 студзеня 1933 году „Аб умацаваньні калгасаў“ пастанавіў даручыць Наркамзему СССР „устанавіць прыкладную ацэнку ў працаднёх розных сельска-гаспадарчых работ, прадугледзеўшы навышэньне расцэнак працы на складаных уборачных машынах, аратых, сейбітаў, цяжкай і кваліфікаванай ручной працы на ўборцы і міжрадковай апрацоўцы“.

У выкананьне гэтай пастановы Наркамзем СССР прапануе ўсім зямельным органам і праўленьням калгасаў устанавіць расцэнкі ўсіх работ у сваім калгасе і разьбіўку работ па групах, кіруючыся ўстаноўленай Наркамземам СССР прыкладнай разьбіўкай па групах, але абавязкова з улікам асаблівасьцяй данага калгасу (стан глебы, цягла, прыладаў, асаблівай важнасьці асобных работ, кваліфікаваных работнікаў і г. д.).



Прушкевіч Рыгор—ударнік калгасу імя Дзяржынскага (Менскі раён) нескалькі разоў прэміяваны, як лепшы змагар за ўраджай. Тав. Прушкевіч з году ў год арганізоўвае збор попелу на поле калгасу

Усе работы разьбіваюцца на 7 груп, прычым на работах, аднесеных да 7-й групы, калгасьнікаў, выканаўшаму ўстаноўленую праўленьнем калгасу дзённую норму выпрацоўкі, налічваецца 2 працадні: па работах, аднесеных да 6 групы, калгасьніку, выканаўшаму дзённую норму выпрацоўкі, налічваецца 1,75 працадня; па работах, аднесеных да 5 групы, калгасьніку, выканаўшаму дзённую норму выпрацоўкі, налічваецца 1,5 працадня; па работах, аднесеных да 4-й групы, калгасьніку, выканаўшаму дзённую норму выпрацоўкі, налічваецца 1,25 працадня; па работах, аднесеных да 3 групы, калгасьніку, выканаўшаму дзённую норму выпрацоўкі, налічваецца 1 працадзень; па работах, аднесеных да 2-й групы, калгасьніку, выканаўшаму дзённую норму выпрацоўкі, налічваецца 0,75 працадня і па работах, аднесеных да 1-й групы, калгасьніку, выканаўшаму дзённую норму выпрацоўкі, налічваецца 0,5 працадня.

**Да 7-й групы адносяцца:** старшы трактарыст-камбайнэр, машыніст на снопавязалцы, машыніст на ільнацерабілцы, машыніст на турман-вакуме, машыніст на буракакапальніку, машыніст на складанай малатарні, трактарыст першай катэгорыі па кваліфікацыі і стажы, сейбіт на звышраньняй сяўбе і старшыня вялікага калгасу.

**Да 6-й групы адносяцца:** трактарыст другой катэгорыі па кваліфікацыі і стажы, араты на зябліве, касец збожжа касой і сярпом, скідальшчык па лобагрэйцы, сьціртапраў, машыніст на коннай малатарні, падавальшчык снапоў на складанай малатарні (барабаншчык), капальшчык буракоў уручную, пракопшчык буракоў, работнік на ломцы і нізцы табаку, палівальшчык бавоўны, трапальшчык ільну, старшыня невялікага калгасу і бухгальтар, які мае спэцыяльную асьвету.

**Да 5-й групы адносяцца:** араты, сейбіт, вязальшчык снапоў, падавальшчык снапоў па коннай малатарні (барабаншчык), вагаўшчык пры малатарні, ручны церабільшчык ільну, мяльшчык ільну

ўручную, работнік на міжрадковай апрацоўцы тэхнічных культур і кукурузы (акрамя пракопкі буракоў), ручны зборшчык бавоўны, кваліфікаваны рахункавод, працуючы звыш году, загадчык жывёлагадоўчай фэрмай, працуючы звыш году, і брыгадзір, працуючы звыш году.

**Да 4-й групы адносяцца:** возчык збожжа і насеньня ў сэзон палявых работ; работнік па расьсьцілу і пад'ёму ільну, работнік на міжрадковай апрацоўцы гароднiх і іншых культур, капальшчык бульбы, рахункавод, працуючы першы год, брыгадзір, працуючы першы год, загадчык жывёлагадоўчай фэрмы, працуючы першы год, старшы конюх і конюх, працуючы звыш году, старшы пастух, старшы сьвінар, старшы чабан.

**Да 3-й групы адносяцца:** работнік на астатніх палявых работах, возчык у сэзон палявых работ астатніх грузаў, не пералічаных у 4-й групе, і возчык у зімовы час, зборшчык гародніны і пладоў, вартавы па ахове збожжа і пасеваў, конюх, працуючы першы год, старшая птушніца, старшая даярка і даярка, працуючая другі год, чабан, сьвінар, пастух.

**Да 2-й групы адносяцца:** даярка, працуючая першы год, птушніца, скотнік і брыгадны кухар.

**Да 1-й групы адносяцца:** работнік на другіх унутрыгаспадарчых пастаянных некваліфікаваных работах, вартавы ўнутры гаспадаркі, уборшчыца і рассыльны.

2. Пры разьбіўцы работнікаў па групах і ўстанаўленьні расцэнкі розных работ праўленьне калгасу павінна выходзіць з таго, каб агульнае павышэньне ліку працадзён, якія прыпадаюць на гаспадарку, супроць цяперашнага году, не перавышала 20 проц. і павышэньне расцэнак асноўных палявых работ у пэўнай меры пакрывалася зьніжэньнем расцэнак другарадных работ, асабліва непалявых і скарачэньнем расходу на адміністрацыйна-гаспадарчыя патрэбы.

3. Конюхам, пастухом, чабанам і іншым, працуючым у жывёлагадоўлі, налічэньне працадзён праводзіцца ў канцы кожнага месяца, прычым, у залежнасьці ад стану жывёлы, ім робіцца скідка або накідка да выпрацаванага ліку працадзён у межах да 20 проц. Работнікам у жывёлагадоўлі, у якіх даручаная ім жывёла будзе ў дрэнным стане, працадні не налічваюцца.



Стада сьвіней саўгасу „Блонь" Пухавіцкага раёну

4. У калгасах, дзе жывёлагадоўчая гаспадарка зьяўляецца асноўным і галоўным, работнікі па жывёлагадоўлі пераносяцца на адзін разрад вышэй.

5. З прычыны таго, што ў мінулым годзе мела месца ва многіх выпадках налічэньне працуючым калгасьнікам працадзён без залежнасьці ад якасьці работы, Наркамзем СССР прапануе праўленьням калгасаў устанавіць наступны парадак прыёмкі работ:

а) па меры сканчэньня работы як групай калгасьнікаў, так і асобнымі калгасьнікамі работу прымае брыгадзір;

б) забараніць брыгадзірам прымаць і налічваць працадні за работу, праведзеную нядобраякасна (ворыва з агрэхамі, пакіданьне пустазельля пры прапалцы, няпоўны абмалот, страты пры ўборцы, дрэнная касьба і г. д.);

в) работу брыгады прымаць, па меры яе сканчэньня, старшыні калгасу, або яго намесьніку, прычым у выпадку недаволі здавальняючай работы праўленьне калгасу робіць скідку з агульнага ліку працадзён, выпрацаваных брыгадай, у тым ліку і брыгадзірам, у межах да 10 проц.;

г) пры атрыманьні брыгадай калгасу ўраджаю звыш сярэдняга калгаснага, усім членам брыгады праводзіць налічэньне працадзён у межах да 20 проц. усяго ліку выпрацаваных імі працадзён за кошт аднагасовага зьніжэньня ў тых-жа разьмерах (да 20 проц.) брыгадам, даўшым ураджай ніжэй сярэдняга калгаснага.

Народны камісар земляробства СССР
**Я. Якаўлеў.**

28 лютага 1933 г.

# Моцная працоўная дысцыпліна— удар па кулаку, гультаю, прагульшчыку і разгільдзяю

# Калгасныя палі павінны даваць такія-ж ураджаі, як і дасьледчыя станцыі

## КАЛГАСНЫМ ПАЛЁМ—ДАБРАЯКАСНАЕ НАСЕНЬНЕ

Значнае месца ў рабоце па ўздыму ўраджайнасьці павінна заняць падрыхтоўка насеннага матар'ялу. Трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на тое зерне, якое засыпана на пасеў;назіраць за ім увесь час да самай сяўбы, каб яно не сапсавалася.

Калі насеньне мае ў сабе лішнюю вільгаць і будзе ляжаць у сырым памяшканьні бяз усякага догляду, то ўсхожасьць яго значна панізіцца і яно можа стаць няпрыгодным для пасеву. Для больш буйнага насеньня вільгаць не павінна перавышаць у сярэднім 14—16 проц., а для дробнага—10—12 проц. Калі вільготнасьць будзе больш паказанай, дык насеньне пачне самасагравацца, выдзяляць пры гэтым прэлы пах і псавацца. Усхожасьць яго значна зьнізіцца. Калі ў такое насеньне усунуць руку, мы адчуем цяплыню. У насеньні-ж нармальнай вільгаці адчуваецца холад.

Чым больш высока будзе ссыпана ў засеку залішне вільготнае насеньне, тым больш яно будзе псавацца. Калі саўгас, ці калгас лічыць, што яго насенны матар'ял залішне вільготны, то трэба зараз-жа паслаць яго бліжэйшай кантрольнай насеннай станцыі для аналізу.

Каб добра захаваць насеньне, асабліва калі яно мае залішнюю вільготнасьць, неабходна кіравацца наступным: пры вільгатнасьці насеньня ў 15—16 проц. яго неабходна ў халодны час пералапачваць праз кожныя 4 тыдні, а ў астатні час—праз 2—3 тыдні. Пры вільготнасьці ў 17—18 проц. яго неабходна ў халодны час пералапачваць праз 1,5—2 тыдні, а ў больш цёплы час—праз тыдзень. Пры нармальнай усхожасьці насеньне трэба трымаць у засеку вышынёю да 1,5 мэтра, а ў летні час вышыню гэту давесьці да 0,75—1,0 мэтра. Калі насеньне мае вільготнасьць у 16—17 проц., дык вышыню засыпкі зярна ў засеку зьніжаць да 0,75—1,0 *м*, а ў летні час да 0,5 *м*. Пры вільготнасьці ў 18—20 проц. трымаць насеньне ў засеках вышынёю ў 0,25—0,36 *м*.

Калі вільготнае насеньне пачынае псавацца, яго неабходна рассыпаць тонкім пластом да 0,5 *м* і пералапачваць праз 5—7 дзён. У сухое і халоднае надвор'е трэба праветрываць сьвірны, у сырое-ж надвор'е рабіць гэтага нельга. Праветрываць сьвірны неабходна толькі тады, калі тэмпэратура паветра на двары будзе халадней, чым у сьвірну.

У справе павышэньня ўраджайнасьці вялікае значэньне мае якасьць пасеўнага матар'ялу. Для насеньня трэба браць добраякаснае зерне, належным чынам праверанае. Калі сеяць неправераным зернем, дык можа здарыцца, што добрае на выгляд насеньне акажацца з нізкай усхожасьцю, альбо заражанае галаўнёй, ці іншымі хваробамі.

Для праверкі насеннага матар'ялу, яго неабходна загадзя пасылаць у бліжэйшую кантрольна-насенную станцыю, ці кантрольны пункт. На пасеў трэба браць больш буйнае і важкае насеньне. Калі сеяць дробным і лёгкім зернем, дык яно дасьць паніжаны ўраджай, бо ў першы час свайго жыцьця расьліна атрымлівае спажыўныя матэрыі выключна з пасеянага зярна. Калі зьявяцца першыя 2—3 лісткі і разаўецца карэнчык, тады расьліна пачынае браць патрэбныя ёй спажыўныя матэрыі з зямлі і паветра. У дробным і лёгкім насеньні спажыўных матэрый знаходзіцца менш, чым у буйным; з гэтае прычыны і расьліна будзе горш расьці і даваць паніжаны ўраджай.

Насеньне не павінна быць старым. Лепш усяго браць для пасеву—зерне з апошняга ўраджаю, бо чым больш старэй насеньне, тым меншая яго ўсхожасьць. Здаровае насеньне павінна мець нармальны колер і пах і калі ў іх ёсьць якія зьмены, дык гэта паказвае, што насеньне пачынае псавацца. Прызначанае для пасеву насеньне павінна быць чыстым, бяз пустазельля, бяз бітых зернят, сьмецьця і г. д.

Нашы палі значна засьмечаны куколем, сурэпкай, кастром, васільком, сустракаецца павітуха і г. д. Частка насеньня гэтага пустазельля ўносіцца ў зямлю разам з пасеўным матар'ялам. Пустазельле наносіць вялікую шкоду сельскай гаспадарцы і з ім трэба весьці рашучую барацьбу.

Насеньне жыта, пшаніцы, аўсу і ячменю трэба пасьля веялкі прапусьціць праз сартыроўку, а потым—праз трыер і толькі ачышчаным такім чынам насеньнем трэба сеяць. Для ачысткі насеньня ад павітухі трэба прапушчаць яго праз сартыроўку „Кускута". Павітуха вельмі шкодны сарняк, і з ім трэба весьці рашучую барацьбу. Галаўня, ці сажа досыць часта сустракаецца на аўсе, ячмені, пшаніцы, просо і радзей на жыце. Калі пасеяць заражоным ёю зернем, то хвароба гэта яшчэ больш пашыраецца. Для змаганьня з галаўнёй неабходна перад самым пасевам пратруціць усё насеньне.

Апрача паказанага неабходна, каб кожны саўгас і калгас увесну 1933 г. вытварыў пасеў гатунковым насеньнем. Ураджай ад яго атрымоўваецца значна большы, чым ад простага насеньня. Калі ў гаспадарцы ёсьць такое насеньне, дык яго неабходна забраніраваць, а калі не хапае, дык абмяняць сваё простае насеньне на гатунковае. Па пытаньню абмену насеньня, альбо завозу яго наабходна зараз-жа зьвярнуцца ў свой раённы зямельны аддзел, а саўгасы, акрамя гэтага, яшчэ—у свой трэст.

**А. Мураўскі.**

# Звышраньні пасеў павялічвае ўраджай

Адным з агратэхнічных мерапрыемстваў, накіраваных на павышэньне ўраджайнасьці, якасьці прадукцыі,—зьяўляюцца звышраньнія пасевы яравых культур.

Вопыты 1932 г. саўгасаў і калгасаў ніжняй і сярэдняй Волгі паказалі, што звышраньні пасеў дае ўраджаі лепшыя і па колькасьці і па якасьці. У 1933 г. нашым саўгасам і калгасам патрэбна закласьці вопытныя вучасткі па звышраньняму пасеву.

Што дае звышраньні пасеў?

Звышраньні пасеў разгружае напружанасьць найбольш напружанага пэрыяду веснавых пасеўных работ у працоўнай і цягавай сіле і інвэнтару; гэта дасьць магчымасьць пасеяным культурам больш скарыстаць вільгаць і забясьпечыць гэтым ураджайнасьць. Такім чынам звышраньні пасеў складае ўмовы для шпаркага разгортваньня звычайнага масавага пасеву сьледам за звышраньнім і праходзіць з большай прадукцыйнасьцю.

Паколькі звышраньні пасеў паскарае пасьпяваньне пасеву, то ён дае магчымасьць больш раўнамерна разьмеркаваць уборачныя работы, што зьніжае напружанасьць цягавай і працоўнай сілы ў час ўборкі.

Таксама гэты пасеў дае магчымасьць утварацьуборку ў больш раньнія тэрміны, зьніжае страты і забясьпечвае сваячасовае выкананьне наступных сельскагаспадарчых работ (уборку абсыпных, лушчэньне, успашка на зяб і г. д.). Пры звышраньнім пасеве ўсходы разьвіваюцца раней і менш пашкоджваюцца рознымі шкоднікамі і грыбнымі захворваньнямі. Найбольш вялікае значэньне мае звышраньні пасеў для засушлівых раёнаў. Добры ўплыў аказвае звышраньні пасеў на яравыя збожжавыя ва ўмовах нормальнай і запазьдалай вясны.

У БССР у гэтую вясну патрэбна закласьці вопыты па звышраньняму пасеву з тым, каб упэўніцца які ўплыў робяць гэтыя мерапрыемствы на ўздым ураджайнасьці. Але трэба цьвёрда памятаць, што **агратэхніку пры звышраньнім пасеве ўжываць абавязкова**.

Лепшымі плошчамі для звышраньняга пасеву будуць тыя, якія найраней аслабаняюцца з-пад сьнегу, якія ва ўмовах нармальнага пасеву бываюць значна прасушанымі ў час сяўбы.



Птушка птушкагадоўчай фэрмы калгасу „Камінтэрн"

Для звышраньняга пасеву лепшымі будуць палі з лёгкімі культурнымі глебамі, з нахілам у паўднёвым напрамку, паўднёва-заходнім і паўднёва-ўсходнім, або—палі з роўным адкрытым рэльефам. На вельмі цяжкіх глiністых глебах пасеў у гразі вытварацьне патрэбна, бо нельга будзе сваячасова запахваць насеньне. Таксама не патрэбна рабіць звышраньняга пасеву на вучастках зямлі засьмечаных злосным пустазельлем, як аўсюг, пырэй, уюнок палявы і г. д.

Звышраньні пасеў — трэба ўтвараць толькі на землях успаханых на зяб. Арганічнае і цяжка раствары мае мінэральнае ўгнаеньне ўносіцца пры асеньняй падрыхтоўцы глебы. Пры гэтым пасеве павялічваецца норма высеву ня больш, як на 10—15 проц.

Пасеў патрэбна вытварацьпа меры аслабаненьня палёў ад сьнегу, у халодна-мёрзлую, або талагразную глебу. Больш часта звышраньні пасеў ўтвараецца раскідкай ад рукі. Па мёрзлай глебе пасьля сходу сьнега, або раніцай у час замаразкаў ўжываецца конная раскідная сеялка. Вялікае значэньне для звышраньняга пасеву мае аэрпасеў, г. зн. пасеў з аэраплану.

Запашку насеньня патрэбна ўтварацьу першы дзень магчымага выезду ў поле з баронай і скончыць у 2—3 дні. Запашка робіцца да паяўленьня ўсходаў, цяжкай баронай у 2—3 сьляды. Нельга спазьняцца з запашкай насеньня. На глебах, якія вельмі ўшчыльніліся за зімні час, запашка насеньня ўтвараецца дыскавымі, або пружыннымі баронамі і ўсьлед за імі пускаецца лёгкая барана ў адзін сьлед.

Калі ствараецца павярхоўная корка пасьля запашкі насеньня, патрэбна зьнішчыць яе баранаваньнем у адзін сьлед да паяўленьня ўсходу. Далейшы догляд за звышраньнім пасевам той-жа, што і за звычайнымі пасевамі. Пры вопытных звышраньніх пасевах патрэбна весьці нагляданьне і запісваньне па наступнай схэме (выпрацаванай НКЗ РСФСР):

а) час і спосаб падрыхтоўкі глебы, пасеву і запашкі насеньня, а таксама становішча насеньня пры іх запашцы;

б) час схода сьнегу;

в) зьяўленьне ўсходаў, гушчыня і раўнамернасьць іх, выхад у трубку, калашэньне, малочная і воскавая сьпеласьць і час ўборкі;

г) віды пустазельля і ступень засьмечанасьці поля ў моманты трубкаваньня і калашэньня культурных расьлін;

д) назіраньне за пашкоджаньнем расьлін шкоднымі кузуркамі і грыбнымі хваробамі.

Назіраньне і запісы павінен ўтвараць палявод, або брыгадзір у калгасах, пад кіраўніцтвам аграномаў. У вытворчы плян патрэбна ўнесьці ўсе работы, якія патрэбны пры рабоце звышраньнім пасевам.

Н. Б.

# ПАВЫШЭНЬНЕМ УРАДЖАЮ БУЛЬБЫ ЗАБЯСЬПЕЧЫМ ЛЕПШЫМІ КАРМАМІ СТКФ

Сярод мерапрыемстваў па павышэньні ўраджайнасьці важнейшым зьяўляецца ўгнаеньне глебы. На нашых падзолістых і пясчаных глебах нагляд аецца значны недахоп такіх важнейшых для расьліны спажыўных матэрый, як азот, фосфар і калій.

Лепшым угнаеньнем, якое абагачае глебу, неабходнай для расьлін спажыўнай матэрыяй, аднач часова запраўляючы глебу арганічнай масай, паляпшаючы яе фізычныя ўласьцівасьці,—зьяўляецца гной. Аднак, гною ў нашай сельскай гаспадарцы па БССР хапае толькі для задавальненьня патрэб прыблізна ня больш, як на 35 проц. Папаўняючы недахоп гною шляхам максымальнага выкарыстаньня ўсіх мясцовых рэсурсаў па ўгнаеньні ў выглядзе розных сельскагаспадарчых адкідаў, прыгатаваньня з іх кампосту, выкарыстоўваючы торф, як падсьціл для скаціны і як угнаеньне, а таксама пасевы лубіну на зялёнае ўгнаеньне,—неабходна асаблівую ўвагу зьвярнуць на завоз і выкарыстаньне ў сьвінагаспадарках мінэральных угнаеньняў.

Задачай кормаздабываньня ў сацыялістычных сьвінагаспадарках—зьяўляецца стварэньне моцнай унутрыгаспадарчай кармавой базы. Кармы павінны забясьпечыць неабходную колькасьць плянавай прадукцыі сьвінагадоўлі, адпаведную хуткасьць адкорму і прыросту сьвіней.

Сьвінагаспадарка павінна забясьпечыць для сьвінагадоўлі вытвар грубых, сакавітых, а таксама і моцных кармоў і падсьцілу.

Ва ўмовах БССР з усіх відаў кармоў, найбольшае значэньне мае бульба, якая па ўраджайнасьці стаіць вышэй усіх іншых культур і можа часткова замяніць моцныя кармы (збожжа). Апрача гэтага, бульба, як абсыпная культура, забясьпечвае пасьпяховую барацьбу з сьмяцьцёвымі расьлінамі, чым спрыяе павышэньню ўраджайнасьці пасьледуючых культур.

Па праэктыроўках Менскага Навукова-Дасьледчага Інстытуту сьвінагадоўлі, бульба будзе займаць у БССР у пачатку другой пяцігодкі ад 20 да 40 проц. усіх кармоў для сьвіней. Таму задача павышэньня ўраджайнасьці бульбы зьяўляецца важнейшай задачай ў справе кормаздабываньня нашым сьвінагадоўчым гаспадаркам. Сярэднія ўраджаі бульбы ў нас яшчэ надта нізкія, ня больш 75—80 *цнт* з *га*.

Прымяненьне мінэральных угнаеньняў пад бульбу значна павышае ўраджай гэтай важнейшай культуры.

Асобныя мінэральныя ўгнаеньні (серна-кіслы амоній, супэрфасфат і калійная соль—паасобку) павышаюць ураджай бульбы на 20 проц. у параўнаньні з ураджаем з няўгноеных вучасткаў (на 19—23 *цнт* на 1 *га*).

Прымяненьне двух відаў мінэральных угнаеньняў (азот і фосфар, азот і калій, фосфар і калій) павышае ўраджай бульбы на 33 проц. ад няўгноенага поля (30—38 *цнт* на 1 *га*).

Мінэральныя ўгнаеньні ўносяць пад бульбу рознымі спосабамі—раскід, у барозны і пад кожны асобны клубень у паасобку (раскідны, радкавы і гнёздавы спосабы ўнясеньня ўгнаеньняў). Норма ўнясеньня ўгнаеньняў пры раскідным спосабе наступная: серна-кіслага амонія—150—180 *кг*, супэрфасфату—270 *кг*, тамасаўкі—310 *кг*, фосфарытнай мукі—600 *кг*, калійнай солі—150—180 *кг*, попелу з бярозавых дроў — 450 *кг*, а з хваёвых—550 *кг* на *га*.

Пры ўнясеньні ўгнаеньняў радкавым і гнёздавым спосабамі, яго, трэба зьмешваць з аднолькавай колькасьцю зямлі, каб клубні бульбы ня былі пашкоджаны ад дакрананьня з угнаеньнем.

Практыка паказала, што ўнясеньне мінэральных угнаеньняў пад плуг у баразну пры пасеве бульбы больш карысна, чым пры ўнясеньні раскідным спосабам. У барозны ўгнаеньняў уносіцца ў два разы менш, а ўраджай бульбы атрымліваецца ў 4 разы большы, чым пры ўгнаеньні раскідным спосабам.

Калійныя ўгнаеньні (у форме флорных соляй) лепш ўнасіць пад бульбу з восені, а вясною як мага раней. Калійныя ўгнаеньні некалькі зьмяншаюць у бульбе колькасьць крухмалу (прыкладна каля 3,5 проц.), але павялічэньне ўраджаю бульбы ад калійных угнаеньняў з лішкам пакрывае гэты недахоп.

Досьледы паказалі, што пры недахопе гною, на лёгкіх глебах добра камбінаваць унасімую пад бульбу палавінную норму гною з калійнымі і фосфарна-кіслымі ўгнаеньнямі. Гной пры гэтым уносяць або ўвосень (разам з калійным угнаеньнем), або вывозяць гной зімою. Вясною гэты гной раскідваецца, і разам з ім уносіцца калійная соль і супэрфасфат.

Надзвычайна добрыя вынікі дае ўнясеньне пад бульбу мінэральных угнаеньняў разам з торфам. Па шэрагу досьледаў —70 *т* торфу на 1 *га*, з надбаўкай калі-фосфарытных угнаеньняў павышаюць ураджай бульбы на 50—60 проц. (дабаўка на 1 *га* 60—70 *цнт*). Асабліва добра ўплываюць на ўраджай бульбы на пясчаных глебах калі-фасфарытныя ўгнаеньні ў камбінацыі з зялёным угнаеньнем. Так, напрыклад, па досьледах Новазыбкаўскай дасьледчай станцыі калі-фасфатныя ўгнаеньні, унесеныя пад лубін, які быў завораны ў цьвяту, на ўгнаеньне пад бульбу, павышалі ўраджай бульбы у 3—3,5 разы.

Усё гэтае з відавочнасьцю даказвае, якую вялікую ролю павінны адыграць мінэральныя ўгнаеньні ў справе павышэньня ўраджайнасьці кармовых культур у сацыялістычных сьвінагаспадарках у веснавую сельскагаспадарчую кампанію 1933 г.

**С. Кудзінаў.**



**Цана 40 кап.**

# БАЛОТНЫЯ ЗЕМЛІ ПАТРАБУЮЦЬ УГНАЕНЬНЯ

Угнаеньне балот і сенажацяй, як і ўгнаеньне мінэральных глеб, у сучасны пэрыяд зьяўляецца важнейшай задачай.

Наколькі вялікае значэньне ўгнаеньняў культывіруемых балот і сенажацяй мае ў справе павышэньня ўраджайнасьці яскрава паказваюць досьледы навукова-дасьледчага Балотнага Інстытуту і паасобных сацыялістычных гаспадарак. Так, ураджай бульбы па Менскай Дасьледчай Балотнай станцыі на вучастку, які ў пяршыню паступіў у культуру па розным угнаеньням складаў: без угнаеньня 36,8 *цнт* з 1 *га*, па ўгнаеньню супэрфасфатам 52,7 *цнт*, або 143 проц. ад няўгноенага і па ўгнаеньню калійнай сольлю і супэрфасфатам 147,8 *цнт* з 1 *га* або 385 проц. ад няўгноенага.

552

Ураджай канапель у саўгасе імя Х-цігодзьдзя БССР (Любаньскі раён) на тарфяніку першага году культуры складаў без угнаеньня 10,3 *цнт* саломы з 1 *га*, па ўгнаеньню супэрфасфатам і сільвінітам 32,9 *цнт* з 1 *га*, альбо 312 проц. ад няўгноенага.

Ураджай штучнай сенажаці аднаго ўкосу ў саўгасе „Усьвіж-Буг“ (Талачынскі раён) на тарфяніку першага году культуры складаў на вучастках няўгноеных 14,5 *цнт* з 1 *га*, на вучастках угноеных супэрфасфатам і сільвінітам 267 *цнт* з 1 *га* альбо 185 проц. ад няўгноеных.

Амаль такія-ж даныя атрыманы і цэлым радам іншых сацыялістычных гаспадарак. Паданыя матар'ялы сьцьвярджаюць, што мінэральныя ўгнаеньні на культывіруемых тарфяніках зьяўляюцца вельмі эфэктыўнымі і ўгнаеньні іх пры культывіроўцы балот зьяўляюцца адным з неабходных мерапрыемстваў у павышэньні ўраджайнасьці. Эфэктыўнасьць унясеньня мінэральных угнаеньняў на культывіруемыя тарфянікі пад розныя культуры можа быць выражана ў наступным: штучная сенажаць дае ў сярэднім прыбаўку ўраджаяў ад унясеньня мінэральных угнаеньняў у 25—35 *цнт* сена з 1 *га*, альбо да 250 проц.

Сілосныя расьліны даюць па ўгнаеньню (8 *цнт* сільвініту і 4 *цнт* супэрфасфату) прыбаўку ўраджаю ў 350—450 *цнт* сілоснай масы з 1 *га* альбо да 400 процантаў. Канопля дае прыбаўку ўраджаю да 400 процантаў, гародныя культуры і карняплоды больш 400 процантаў і г. д.

Досьледамі Балотнага інстытуту вывучана, што ўсе тарфянікі патрабуюць у першую чаргу калійных угнаеньняў і фосфарных. Норма калійных угнаеньняў для балот складае ў сярэднім 6—8 *цнт* сільвініту на 1 *га*. Меншая норма для менш калевалюбівых расьлін (сенажаці і г. д.) і большая норма для больш каліявалюбівых расьлін (кораньплод, бульба).

Норма фосфарных угнаеньняў для асобных балот неаднолькавая і мае ўжо большыя хістаньні—ад 2 да 4 *цнт* супэрфасфату або тамасшлаку на 1 *га*. Асобныя-ж балоты (багатыя вівіанітам) на ўгнаеньне фосфарнымі ўгнаеньнямі рэагуюць зусім слаба, а ў некаторых выпадках і зусім не рэагуюць, але-ж для таго, каб гэта ўстанавіць дакладна патрэбна правядзеньне палявых досьледаў.

Усё гэта разам і прымушае нас, у надыходзячую веснавую сяўбу, да пытаньня выкарыстаньня ўгнаеньняў падыйсьці з поўнымі гаспадарчымі разьлікамі і ў першую чаргу выкарыстаць маючыя ўгнаеньні пад вядучыя галоўныя сельска-гаспадарчыя культуры раёну і на глебы, якія маюць найбольшую эфэктыўнасьць. Гэтым самым у гэтую пасеўную кампанію мы не павінны паўтараць памылкі асобных раёнаў мінулага году і не павінны заставіць культывіруемыя балоты без угнаеньняў (асабліва калійных). Забясьпечваючы культывіруемыя тарфянікі, у першую чаргу калійна-фосфарнымі ўгнаеньнямі, мы, па-першае, ствараем патрэбныя ўмовы да рацыянальнага выкарыстаньня мэліорыруемых плошчаў і тых сродак, якія закладзены на іх мэліорацыю. Па-другое, мы на мэліорыруемых тарфяніках з поўным посьпехам можам культывіраваць галоўныя сельска-гаспадарчыя культуры, атрымліваць найбольшыя ў нашых умовах ураджаі гэтых культур і найбольшую эфэктыўнасьць ад унясеньня ўгнаеньняў.

Па матар'ялах Балотнага Інстытуту ўраджай сельска-гаспадарчых культур на балотах ў нашых умовах з посьпехам можа дасягаць: для бульбы да 200 *цнт* з 1 *га*, для кораньплодаў (буракоў, бручвы)—350 *цнт*, для турнэпсу 450 *цнт*, для канапель да 50 *цнт* саломы або 8 *цнт* пянькі, для штучнай сенажаці да 80 *цнт* сена і г. д.

**Для культывіруемых тарфянікаў і для сенажацяй драўляны попел зьяўляецца патрэбным поўным угнаеньнем.** Досьледамі ў саўгасах і калгасах устаноўлена, што 1,5—2 тоны хатняга попелу з поўным посьпехам могуць замяніць калійна-фосфарныя ўгнаеньні. На культывіруемым балоце саўгасу „Пабалаво-Забалоцьце“, Рагачоўскага раёну, ураджай штучнай сенажаці угноены 1,5 тоны попелу склаў 51 *цнт* сена з 1 *га* і ўраджай па ўгнаеньню 5 *цнт* сільвініту і 4 *цнт* супэрфасфату складаў—56 *цнт* сена. Такія-ж даныя аб дзейнасьці попелу атрыманы і цэлым радам іншых сацыялістычных гаспадарак. Акрамя гэтага ў 1930—32 г.г. мы мелі, што паасобныя сацыялістычныя гаспадаркі ўгнаеньне сваіх культывіруемых балот забясьпечвалі выключна попелам, захоўваючы атрыманьне поўных патрэбных ураджаяў.

Такім чынам гэты вопыт нам трэба з усёй дакладнасьцю ўлічыць, і не забываць, што 1 *цнт* на культ. балотах гэта 2 *цнт* сена, або 3 *цнт* гароднінy, або 0,5 *цнт* збожжа. Таму, трэба мабілізаваць масы на поўнае выкарыстаньне попелу фабрык, заводаў, жыльлёвых памяшканьняў гарадоў і вёсак.

**У нас зараз ёсьць усе магчымасьці для таго, каб ураджайнасьць саўгасных і калгасных палёў павысіць да ўраджайнасьці палёў дасьледчых станцый.** Віна ў неажыцьцяўленьні гэтага будзе выключна ў нежаданьні выкарыстоўваць дасягненьні навукі і тэхнікі і ў нежаданьні змагацца за павышэньне ўраджайнасьці.

**Р. Ляўчэня.**

Адказны рэдактар: **РЭДКАЛЕГІЯ.**



Друкарня імя Сталіна. Зак. 1785. Тыр. 2.880 экз. Мен. Горліт № 1350.

207091-